PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 14 (2238) Год XLIV    Беласток 4 красавіка 1999 г.    Цана 1,20 зл.

## Аднак заложнікі

Яўген МІРАНОВІЧ

Пасля 1989 г. усе міністры культуры III Рэчы Паспалітай у сваім рабочым календары мелі запланаваную штогадовую сустрэчу з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей. Падчас такіх сустрэч гаспадары, выслухаўшы гасцей, пераконвалі іх у прыхільнасці ўлад да грамадзян нацыянальнасці. Заўсёды прысутны віцэ-міністр Міхал Ягела інфармаваў, што адносіны да палякаў у суседніх краінах не будуць мець уплыву на палітыку Польшчы ў адносінах да сваіх меншасцей. Немагчыма, каб меншасці калі-небудзь сталі заложнікамі нашай палітыкі, мы ідзем у Еўропу, у нас хрысціянскія традыцыі, — падкрэсліваў віцэ-міністр.

У Сейме ад 1990 года Камісія па справах нацыянальных і этнічных меншасцей рыхтавала „Закон аб меншасцях". Зацікаўленне чарговых урадаў, а таксама і парламентарыяў гэтым законам, мякка кажучы, было памяркоўнае. У Польшчы ў сапраўднасці няма праблемы меншасцей. Адзін працэнт няпольскай нацыянальнасці ад агульнай колькасці насельніцтва краіны, а прытым моцна апалячаны, з'яўляецца проста незаўважальным. Нават у Беластоку, дзе быццам бы кожны трэці жыхар горада мае беларускае паходжанне, зусім не адчуваецца ніякай беларускасці. Пра існаванне яўрэяў у Польшчы можна толькі даведацца з надпісаў на мурах у стылі: „Jude raus" ці „Żydzi do gazu". Грамадства ў Польшчы не надта і хоча нешта ведаць пра свае меншасці, а тым больш успрымаць іх як нейкіх партнёраў. Інакш — палітыкі. Імкненне ўвесці краіну ў еўрапейскія структуры прымушае іх прынамсі фармальна ставіцца да немцаў, яўрэяў, беларусаў, украінцаў як да паўнацэнных грамадзян. Якая-небудзь наяўная дыскрымінацыя проста ўскладняла б еўрапеізацыйныя планы. Таму чарговыя ўрады ў адносінах да меншасцей выконвалі шмат жэстаў, якія гэтымі апошнімі ўспрымаліся як вынік дэмакратызацыі палітычнага жыцця ў Польшчы.

На правінцыі, дзе пражываюць нацыянальныя меншасці, у гэтым самым часе ніхто не думаў катэгорыямі дзяржаўнага інтарэсу так як у Варшаве. У Пярэмышлі ці Пуньску пастаянна паказваюць украінцам і літоўцам дзе іхняе месца, а бельскі салідарніцкі дзеяч запрапанаваў нават паслам гэтай арыентацыі стварыць камісію па справах заснавання запаведніка для беларусаў.

Гэтыя грамадскія настроі паўплывалі таксама на выбар сучаснага парламента, у якім апынулася шмат суперпатрыётаў. Падрыхтаваны Камісіяй нацыянальных меншасцейпад кіраўніцтвам Яцка Кураня, праект „Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях" выклікаў абурэнне паслоў-патрыётаў, якія прапанавалі адкінуць яго поўнасцю ўжо ў першым чытанні. Супраць прынняцця праек-

[працяг ☞ 4]



*Усходняя Беласточчына на фоне краіны — адсталая і спакойная.* Фота У. ЗАВАДСКАГА

## Далі Бальцаровічу!

Мікола ВАЎРАНЮК

**Значыць, едзем у Варшаву! Ратаваць польскую сельскую гаспадарку. Так вёсцы дапяклі палітыкі. А найбольш міністр фінансаў Лешак Бальцаровіч.**

— У мяне пятнаццаць малочных кароў, а ўсяе рагатай жывіны штук сорак, — кажа Мікалай Галёнка з Махнатага, — сучасныя гаспадарчыя будынкі, усе патрэбныя машыны. У гміне падлічылі мне даход на падставе гектараў. Выйшла, што наўрад ці ў Варшаве ёсць другі такі багаты. А папраўдзе, пры сённяшняй кан'юнктуры на нашы прадукты, то я з гэтае гаспадаркі не ўтрымаюся. Ці гэта нармальна?

Гаспадары ва ўсёй Польшчы лічаць, што не. І з пачатку года пратэстуюць: блакуюць дарогі, маршыруюць па Варшаве. Найбольш актыўны з усіх — Анджэй Лепэр, заснавальнік „Самаабароны".

Усходняя Беласточчына на фоне краіны — надзвычай спакойная.

— Няма ў нас чаго блакаваць, — кажа Мікалай Яноўскі з Пераходаў, намеснік старшыні Ваяводскай управы Польскай сялянскай партыі (*PSL*) у Беластоку, — не загародзім жа дарогі ў Збучы ці Нарве, бо тут найбольш самі сяляне ездзяць. Не станем блакаваць і дзяржаўную мяжу, бо ж нам ідзе пра тое, каб нашы прадукты траплялі на ўсход.

Папраўдзе, дык ужо і не вельмі ёсць каму блакаваць.

— Давалі нам за нашу пасіўнасць палякі з-пад Ломжы! — гаворыць Яноўскі. — Нават брыдкімі словамі лаялі па Беластоцкім радыё.

Лепэр сарганізаваў дэманстрацыю ў Варшаве 17 сакавіка. Дзеячы іншых сялянскіх партый і арганізацый, каб не сысці з палітычнай сцэны, мусяць таксама павысіць актыўнасць. Сельскагаспадарчыя гурткі (*kółka rolnicze*) і „Салідарнасць гаспадароў", пры падтрымцы ПСЛ, наладзілі свой мітынг на Плошчы Юзэфа Пілсудскага ў Варшаве ў першы дзень вясны, 21 сакавіка.

Мікалай Яноўскі хацеў даказаць ламжынякам, што і мы можам уголас сказаць сваё слова. Бегаў, тэлефанаваў, умаляў і... ледзь сабраў з Гайнаўшчыны два аўтобусы. А і так, каб наш не свяціў пустымі месцамі, да гаспадароў з Барысаўкі, Навасад, Махнатага, Старога Беразова давялося пасадзіць некалькі тыпаў, ці не проста з прыступкаў крамы.

— Нашы людзі такія, што сусед суседа ў дарогу адпраўляе: каб табе там добра ў сраку далі! Якой жа халеры дэманстраваць. Рукі апускаюцца, — гавораць у аўтобусе. І абмяркоўваюць навіны ў палітыцы:

— Бальцаровіч сказаў, што будзе вучыць вёску.

— Ага, навучаць яны. Так, што на шостым класе тая навука скончыцца, — нехта за адным махам аднёсся і да асветнай рэформы. — Нашы дзеці, як за Пілсудскага, пастухамі па маёнтках будуць.

Аўтобус коціцца няспешна. Пераязкаем Буг.

— О, тут граніца Еўрапейскага Саюза будзе, — бліснуў хтось чорным гумарам.

— Не, не тут, на Вісле.

— А можа на Одры? А тут НАТО.

— І каму яно, тое НАТО, б...ь, патрэбнае?

Абганяюць нас два аўтобусы з Сувалкаў і ламжыныкі ў прыватных машынах ды ў „Жуку".

— Кіроўца, хутчэй, а то апошнімі давалачэмся! — падганяе нехта.

— Можа менш нам дастанецца, калі біць будуць, — знайшоўся аптыміст.

— Ага, сказаў. Якраз наадварот, апошніх заўсёды б'юць наймацней.

Але ў гэты дзень ніхто нікога біць не збіраўся. Дэманстранты не блакавалі ву-

[працяг ☞ 4]

*Чытачам „Нівы", якія Вялікдзень адзначаюць 4 і 5 красавіка, жадаем радасных і спакойных Святаў*

РЭДАКЦЫЯ

## Шлях у гімназію

15 сакавіка Рада гміны ў Дубічах-Царкоўных прыняла пастанову, што гімназісты з Дубіцкай гміны будуць вучыцца ў Орлі. Пасля атрымання гэтай весткі арлянскія ўлады арганізавалі нечарговую сесію, якая прыняла правамоцную пастанову аб стварэнні ў Орлі гімназіі.

[змаганне за гімназію ☞ 3]

## За чаўночны гандаль

З пункту гледжання польскай эканомікі такі гандаль павінен прыносіць урон і быць можа таму беластоцкія ўлады прыпомнілі пра сваю ранейшую пастанову. Аднак беластоцкія прадпрымальнікі заўважылі, што „рускія" сваімі таннымі таварамі прыцягаюць на базары пакупнікоў, якія пры нагодзе даюць і ім прыбытак. І яны сталі выказвацца за адмену пратэкцыянісцкай гарадской пастановы.

[змаганне з „рускімі" ☞ 4]

## Ці будуць лесанасаджэнні?

— Мы на Гайнаўшчыне найбольш адчуваем занепад у сельскай гаспадарцы. Калі не зменіцца на лепшае, трэба будзе ў нас зрабіць лесанасаджэнні і абудзь пасталы, — сказаў Мікалай Яноўскі з Пераходаў, намеснік старшыні Ваяводскай управы ПСЛ.

[праблемы сялян ☞ 4]

## Маё сэрца па ўсходняй старане

***— Ці сярод анархістаў ёсць беларусы?***

— У Беластоку — так. Я сам лічу сябе беларусам.

***— Адкуль твае карані?***

— Бацька родам з Навасад, што непадалёк Гайнаўкі, маці з Сабятына ля Мілейчыч. На жаль, не валодаю беларускай мовай, хаця яе разумею.

[размова з анархістам ☞ 8-9]

## З кім ты маеш дачыненне

Роберт вучыцца на педагога. Будзе займацца нашымі дзецьмі. Пэўна, у нашым тут старонні, бо бацькі будуюць яму вілу ў Гайнаўскім павеце. Пэўна таму так трымаюцца за кашалёк. Добра было б, каб і за язык патрымаліся, і ў слоўнік заглянулі, што за слова такое — „сумленне".

[несумленнасць ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Югаслаўскі палігон

24 сакавіка вечарам самалёты НАТО скінулі першыя бомбы на Югаславію. Як прычыну агрэсіі амерыканская прапаганда, а ўслед за ёй усіх натаўскіх краін, прадстаўляе палітыку бялградскіх улад у аўтаномнай акрузе Косава, дзе ў апошніх месяцах загінула каля 2 тысяч людзей. Хаця ў Косаве страляюць да сябе сербы і албанцы, тамашнюю вайну прадстаўляецца як „сербскія этнічныя чысткі".

На другі дзень пасля атакі НАТО на Югаславію на першай старонцы „Газеты выборчай" з'явіўся каментарый галоўнага рэдактара Адама Міхніка, у якім з захапленнем заявіў ён, што „agresor zostanie ukarany". Агрэсарам, аднак, Міхнік назваў Югаславію, армія быццам бы якой напала на Амерыку, даказваючы гэтым самым, што межы крывадушнасці ў нас нічым неабмежаваны. У той жа дзень міністр Канцылярыі прэзідэнта РП Марэк Сівец па першай праграме Польскага радыё заявіў, што бомбы, якія падаюць на Югаславію — гэта „bomby niosące pokój". Посткамуністы на чале з прэзідэнтам Кваснеўскім у падлізніцтве амерыканцам даўно ўжо перагналі дасягненні сваіх старэйшых таварышаў, якія служылі Маскве, але без асаблівага энтузіязму. Пра г.зв. лібералаў ці права-клерыкальных палітыкаў нават няма сэнсу ўспамінаць таму, што некрытычныя і ў нейкім малітоўным захапленні ўспрымаюць усё тое, што робіць старэйшы брат з-за акіяна. Магчыма. што пабачым таксама капеланаў асвячаючых кулямёты, з якімі польскія салдаты (магчыма таксама праваслаўныя) будуць выпускаць „kule niosące pokój".

Да гэтага часу ніводзін з палітыкаў НАТО не паспрабаваў адказаць на часта стаўленае ім пытанне: чаму няма такой інтэрвенцыі ў Турцыі, армія якой забіла апошнім часам дзесяць разоў больш курдаў чым сербы косаўскіх албанцаў. Гэтае пытанне ставілася таксама польскім палітыкам, якія каментавалі падзеі ў Югаславіі. Але ўсе яны паводзілі сябе як быццам і не чулі пра што іх пытаюць. Ніколі супраць генацыду курдаў не пратэставалі ні амерыканскія палітыкі, ні іх еўрапейскія васалы. Тры гады таму, калі харваты выганялі і вырэзвалі сербаў у Крайне, усё гэта адбывалася пры лагістычнай падтрымцы генералаў НАТО і пры дапамозе натаўскага ўзбраення. Ніхто тады нават не заікнуўся пра „этнічныя чысткі". Уся дэмагогія пра абарону албанцаў выглядае як чорны гумар. Праўдападобна загінула іх некалькі разоў больш падчас „мірнай місіі" НАТО, чым падчас сербскіх этнічных чыстак, якія праводзіліся да 24 сакавіка.

Пра што ідзе ў гэтай вайне Злучаных Штатаў супраць Югаславіі дакладна невядома. Напэўна амерыканцы правяраюць якасць новых самалётаў, дакладнасць вайсковай электронікі, паспяховасць электроннага ўпраўлення ракетамі і бомбамі. Прынізілі яны і праігнаравалі прытым расіян, даказалі, што нават на усходняй Еўропе, на тэрыторыі краіны, якая з'яўляецца саюзнікам Расіі, могуць свабодна праводзіць усялякія вайсковыя аперацыі, як на сваіх палігонах. Цалкам слушна ў Маскве паставілі пытанне, каго пасля Югаславіі амерыканцы пры дапамозе бомбаў будуць пераконваць у дэмакратыі. Пасля атакі г.зв. цывілізаванага свету на Югаславію няшмат таксама стане такіх, якія будуць яшчэ паважаць міжнароднае права. Некаторыя каментатары ў Польшчы бачаць, напрыклад, патрэбу змены дэфініцыі „агрэсіі". Але з гэтым не павінна быць праблемаў. Рэдактар „Газеты выборчай" карыстаецца ўжо новай дэфініцыяй.

(рэд.)

## Калі пагрозы не дапамагаюць

Улады Гродзеншчыны пачалі пераходзіць ад афіцыйных папярэджанняў да адкрытых рэпрэсіяў супраць людзей, што прымаюць удзел у падрыхтоўцы выбараў прэзідэнта. Першым такім выпадкам можна лічыць працяг ганенняў (гл."Ніва" № 10) на жыхара мястэчка Свіслач Віктара Трэшчановіча з боку мясцовай „вертыкалі".

11 сакавіка рашэннем Свіслацкага райвыканкама была спынена дзейнасць прыватнага прадпрыемства „Электрапрамень", уласнікам якога з'яўляецца Віктар Трэшчановіч. Падставай такога рашэння стала быццам бы стратнасць прадпрыемства. Але гэта не адпавядае рэчаіснасці. Апошнія восем месяцаў „Электрапрамень" прыносіў стабільныя прыбыткі, а ўсе падаткі дзяржаве выплачваліся поўнасцю і тэрмінова.

Дзеянні райвыканкама супярэчаць не толькі закону, але і інтарэсам жыхароў Свіслачы. „Электрапрамень" здаваў у арэнду памяшканні тром дзяржаўным (!) прадпрыемствам пад фірменныя крамы. „У гэтых крамах вялікі выбар самых неабходных харчовых і прамысловых тавараў, па цэнах ніжэйшых чым у крамах райспажыўсаюза", — сцвярджаюць свіслачане ў адкрытым лісце да Аляксандра Лукашэнкі і старшыні Гродзенскага аблвыканкама Аляксандра Дубко. Ліст быў складзены адразу, як толькі людзі даведаліся пра закрыццё „Электрапрраменя", што аўтаматычна вядзе за сабой скасаванне арэнды. Літаральна за некалькі гадзін каля сотні жыхароў мястэчка паставілі подпісы ў падтрымку прадпрыемства.

Але сам Трэшчановіч не разлічвае на абарону з боку вышэйшых ўлад і не спадзяецца, пры сённяшняй сітуацыі на Беларусі, на магчымасць знайсці праўду ў судзе. Разумее ён, што сапраўднай прычынай дзеянняў улад сталі яго палітычныя перакананні. Ён з'яўляецца старшынёй Свіслацкай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта. На пасяджэнні райвыканкама яго старшыня Анатоль Кузьма амаль нічога не казаў спадару Трэшчановічу пра працу прадпрыемства, а абвінавачваў у спробе „захопу ўлады".

За тое ж ад мясцовай пракуратуры атрымалі афіцыйнае папярэджанне яшчэ шэсць сяброў Свіслацкай выбарчай камісіі.

З гэтай нагоды 12 сакавіка Віктар Трэшчановіч накіраваў на імя пракурора Свіслацкага раёна Шэціка ліст. У ім да ведама пракуратуры даводзіцца, што сябры выбарчай камісіі не ставяць перад сабой мэты захопу ўлады, а іх дзеянні накіраваны на падтрымку канстытуцыйнага ладу суверэннай дзяржавы. Спадар Трэшчановіч нагадвае спадару Шэціку, што да гэтай пары няма адказу на яго заяву ў пракуратуру ад 19 лютага. Тады Віктар Трэшчановіч прасіў разабрацца адкуль зыходзілі звесткі, што ён быццам бы заклікаў жыхароў Беластoчыны падтрымаць перавыбары беларускага прэзідэнта.

Зміцер КІСЕЛЬ

## Віцебскія паведамленні

**Віцебская суполка Задзіночання беларускіх студэнтаў** пры дапамозе Цэнтра маладзёжных ініцыятыў „Контур" і садзейнічанні Віцебскага саюза немцаў правяла 19 сакавіка вечарыну, прысвечаную **ўгодкам Беларускай Народнай Рэспублікі**. На імпрэзу ў прыгожа афармленай зале Рэсурснага цэнтра „Згода" сабралася да пяцідзесяці юнакоў і дзяўчат. Яны з зацікаўленнем паслухалі выступ наваполацкага барда Алена. Пасля канцэрта моладзь праверыла свае веды ў віктарынах па беларускай мове, літаратуры, гісторыі, геаграфіі, адказала на пытанні ў конкурсе па веданні здабыткаў нацыянальнай культуры і спорту. Актыўны ўдзел ды трапныя адказы засведчылі, што віцебскае студэнцтва цікавіцца беларушчынай.

З 12 па 14 сакавіка ў Мінску адбылася **сустрэча групы лідэраў YMCA** (Маладзёжнай хрысціянскай супольнасці) і прадстаўнікоў Еўрапейскага альянса гэтай жа арганізацыі. Падчас пасяджэння абмяркоўваліся пытанні развіцця беларускай YMCA і планавалася яе праца на бліжэйшыя два гады як на рэспубліканскім, так і на рэгіянальных узроўнях. Гаворка пайшла і пра бюджэт арганізацыі. На мерапрыемстве прысутнічалі члены Маладзёжнай хрысціянскай супольнасці з Віцебска, Мінска, Ліды, Валожына, Бабруйска і Гомеля.

Незалежная беларуская прэса не раз пісала аб **фільме Юрыя Хашчавацкага „Звычайны прэзідэнт"**. Некаторым шчасліўчыкам удалося паглядзець гэты не надта любімы ўладамі твор. Пасля стварэння кінадакумента прайшло нямала часу, адбыліся важныя падзеі. Аднак стужка не згубіла свайго значэння. Цікавасць да яе не знікла. Нядаўна пераканаліся ў гэтым прадстаўнікі Рэсурснага цэнтра „Згода". РЦ арганізаваў прагляд кінастужкі. Дэманстрацыя кіно сабрала неабыякавых да лёсу краіны людзей. Пасля сеанса яны доўга не пакідалі РЦ, абмяркоўваючы сам твор і прычыны, што выклікалі неабходнасць стварэння дакументальнага фільма „Звычайны прэзідэнт". Гучалі розныя меркаванні. Але ў адным гледачы былі, несумненна, згодныя. Такога кшталту імпрэзы трэба праводзіць часцей, бо яны дапамагаюць лепей зразумець развіццё нашага грамадства, лепш усвядоміць прычыны крызісных з'яў у краіне.

У Наваполацку накладам 299 асобнікаў выйшаў **першы нумар незалежнай газеты „Канспект"**. Яе выпусціла тутэйшая суполка Задзіночання беларускіх студэнтаў. Выданне, прысвечанае праблемам студэнцтва, шмат увагі адводзіць дзейнасці Полацкага дзяржаўнага універсітэта, працы наваполацкіх членаў ЗБС. „Канспект" таксама змяшчае іншыя матэрыялы, цікавыя для моладзі Полацкага рэгіёна. Рэдагуе газету Андрусь Храпавіцкі. У рэдакцыйную раду ўвайшлі Алесь Адамковіч ды Віталь Броўка.

**Сацыяльныя чыннікі** — вось галоўная прычына, што летась падштурхнула 7 221 віцяблянку на **штучнае перарыванне цяжарнасці**. З іх на небяспечную аперацыю рашыліся амаль паўтары тысячы незамужніх жанчын, у тым ліку каля 600 — упершыню цяжарных. Часцяком аборты не праходзяць без ускладненняў. Тым больш, аперацыя крымінальная. Ад іх наследкаў у 1998 годзе прыйшлося выратоўваць шэсць жанчын. На шчасце, ніхто не памёр. Не знікае з'ява абортаў сярод непаўналетніх. Летась перапынілі цяжарнасць тром падлеткам ва ўзросце да 14 гадоў. Пайшлі на аборт і 156 дзяўчын ва ўзросце 15-17 гадоў.

Юрась СЦЯПАНАЎ,
НРІА „Контур-INFO"

## Угодкі БНР у Беластоку

Святкаваць Акт 25 Сакавіка ў Беластоку ў васьмідзесятых гадах пачалі студэнты — падпольна, у інтэрнацкіх пакоях і на прыватных кватэрах. У дзевяностых ладжаным беларускімі суполкамі ўрачыстасцям спадарожнічалі культурныя мерапрыемствы. Сёлета беластачане 81 гадавіну абвяшчэння Незалежнасці адзначылі на Кафедры беларускай культуры мясцовага Універсітэта, якая 25 сакавіка наладзіла канверсаторый на тэму „Дзве незалежнасці". Удзельнікі навуковага мерапрыемства выслухалі даклады Алега Латышонка пра першую незалежнасць, ад 1918 года і Яўгена Міранoвіча — пра другую, ад 1991 года.

У ходзе дыскусіі абмяркоўвалася пытанне ўплыву вонкавай сітуацыі на ўзнікненне Рэспублікі Беларусь. Старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа не згадзіўся са сцвярджэннем дакладчыка, што беларусы ў атрыманні суверэнітэту павінны быць удзячны толькі вонкавым абставінам і ў якасці доказу нагадаў дэманстрацыі і палітычныя акцыі, якія праводзіліся ў Беларусі ў пачатку дзевяностых гадоў. Дакладчыка падтрымалі вочавідцы гэтых здарэнняў — тадышні пасол РП у Мінску і цяперашні кіраўнік Кафедры праф. Альжбета Смулкова, а таксама тадышні жыхар Мінска і цяперашні віцэ-консул РБ у Беластоку Павел Латушка. Паводле дыпламата, на дэманстрацыю ў Мінску падчас антыгарбачоўскага путчу не выйшла шмат людзей, а Беларусь не адрэагавала так, як гэта зрабіла Масква. Праф. А. Смулкова падзялілася ўражаннямі ад імпазантных святкаванняў угодкаў БНР у сталічным Оперным тэатры.

Наша журналістка Ганна Кандрацюк запытала ў дакладчыкаў, ці ў даваенным Беластоку беларусы святкавалі 25 Сакавіка. І тут не было адназначанага адказу. Вядома, што ўгодкі абвяшчэння БНР святкаваліся ў даваеннай Вільні. Мабыць, у Беластоку такія святкаванні былі забароненыя. Адказ на гэтае пытанне пакуль застаецца за даследчыкамі.

(вл)

## Моладзь за Беларусь

Гродзенская моладзь адзначыла ўгодкі БНР несанкцыяваным уладамі шэсцем па цэнтральных вуліцах Гродна.

25 сакавіка ў другой палове дня каля будынка адміністрацыі аблвыканкама некалькі дзесяткаў маладых людзей разгарнулі бел-чырвона-белыя сцягі і воклічамі „Жыве Беларусь!", „Радзіма!, Свабода! Далоў Луку ўрода!" пачалі святочны хепенінг.

Гродзенскія ўлады ўжо два гады не даюць дазволу на правядзенне акцый апазіцыі ў цэнтры горада. Але 25 сакавіка штогод у Гродне ў забароненых уладамі месцах праходзяць святочныя мерапрыемствы.

Сёлета арганізатарамі святкавання ўгодкаў БНР сталі хлопцы і дзяўчаты з розных маладзёжных арганізацый Гродна, да якіх далучыліся сябры гарадской Філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Сцяг гэтай партыі лунаў на перадзе шэсця моладзі па цэнтры горада. Акцыя стала поўнай нечаканасцю для ўлад.

З раніцы ў розных частках Гродна дзяжурылі ўзмоцненыя нарады міліцыі. Але дзе і калі прыхільнікі незалежнасці Беларусі будуць адзначаць свята ўлады не ведалі. Магчыма таму шэсцю моладзі ніхто не перашкодзіў. Толькі праз некалькі хвілін пасля заканчэння акцыі па горадзе пачалі бегаць купкі міліцыянераў.

(зк)

# Шлях у гімназію



*Бацькі будучых гімназістаў выязджаюць у Беласток. Вярнуліся яны таксама поўныя сумненняў.*

V сесія Рады гміны ў Орлі, якая адбылася 24 лютага г.г., у асноўным прысвечана была пытанням асветы ў гміне. З інфармацыяй пра асветную рэформу выступіла дырэктар школы Яўгенія Васілюк, якая прапанавала радным стварыць у Орлі гімназію. Аднак праблема заключаецца ў тым, што добрым матэрыяльным умовам у школе не спадарожнічае адпаведная колькасць дзяцей. Паводле закона ў першым класе гімназіі павінна быць 50 вучняў, а ў арлянскай школе будзе толькі 28 гімназістаў.

На пасяджэнне гміннай улады прыйшло многа бацькоў, занепакоеных лёсам дзяцей у гімназічным узросце. Радны Ян Хадак, які прадстаўляў таксама сабраных бацькоў, пакрытыкаваў гміную адміністрацыю за тое, што так позна занялася справай рэфармавання асветы ў гміне, у выніку чаго ніхто не мае пэўнасці, ці ў Орлі будзе свая гімназія. Бацькі воплескамі падтрымалі выступленне прамоўцы, а пасля расказвалі, што, паводле вестак, якія дзеці прыносяць са школы, будуць іх вазіць у гімназію ў Ягуштове Бельскай гміны. На зале падняўся шум, а Яўген Навіцкі з Орлі заявіў, што калі справы пойдуць самацёкам, то ўжо цяпер можна прадбачыць чорны сцэнарый: гімназіі ў Орлі не будзе.

Старшыня Рады, войт і сакратар сталі абвяргаць абвінавачанні ў бяздзейнасці. Тлумачылі яны, што вялі перамовы з уладамі Дубіцкай гміны, каб дзяцей з тэрыторыі гэтай гміны пасылаюць у гімназію ў Орлі.

Жыхар Крывятыч Ян Пост прапанаваў, каб у такой складанай сітуацыі ліквідаваць школу ў Малінніках, але радны з гэтай вёскі Пётр Нічыпарук заявіў, што калі ў іх будзе закрыта школа, то тады яны сваіх дзяцей не пашлюць у арлянскую гімназію. Каб не страціць малінніцкіх дзяцей, радныя пакінулі школу ў Малінніках.

На другі дзень Орлю наведалі старэйшыя дзеці з Дубіч-Царкоўных. Гасцям спадабалася мясцовая школа. Арлянскія ўлады запрапанавалі дубіцкім дзецям дармовы давоз у гімназію. А 26 лютага ў сесіі Гміннай рады ў Дубічах-Царкоўных удзельнічалі прадстаўнікі ўлад Арлянскай і Кляшчэлеўскай гмін, якія намагаліся прыцягнуць дубіцкую моладзь у свае гімназіі. Аднак радныя вырашылі змагацца за стварэнне гімназіі ў сябе.

Устрывожаныя няпэўным лёсам гімназіі жыхары Орлі вырашылі самі хадайнічаць перад асветнымі ўладамі ў Беластоку. Гміна дала ім аўтобус і 10 сакавіка дэлегацыя з 15 чалавек і войт Міхал Іванчук наведалі Куратарыю асветы. Дырэктар асветнага аддзялення Антаніна Застоцка, якая дэлегатам прысвяціла дaслоўна некалькі мінут, заявіла, што лёс гімназіі залежыць ад таго, ці Орля прыцягне да сябе гімназістаў з Дубіч-Царкоўных і Крывой.

На другі дзень прадстаўнікі арлянскіх улад паехалі сустрэцца з войтам Дубіцкай гміны і бацькамі тамашніх гімназістаў. На жаль, бацькоў прыйшло мала і войт Анатоль Паўлоўскі не даў станоўчага адказу. Справа была адтэрмінавана да пасяджэння Рады гміны, якая мела адбыцца 15 сакавіка, у апошні дзень, калі канчаўся тэрмін перадачы пастаноў мясцовых рад наконт гімназій у куратарыю. Аднак шасцёра бацькоў дало арлянскім гасцям пісьмовую згоду на навуку сваіх дзяцей у арлянскай гімназіі. Гэты дакумент неадкладна адпраўлены быў па факсе ў куратарыю.

15 сакавіка Рада гміны ў Дубічах-Царкоўных прыняла пастанову, што гімназісты з Дубіцкай гміны будуць вучыцца ў Орлі. Пасля атрымання гэтай весткі арлянскія ўлады каля гадзіны 15 пачалі арганізаваць нечарговую сесію. Гміннным чыноўнікам урэшце ўдалося сцягнуць дзесяць гмінных дэпутатаў, якія прынялі правамоцную пастанову аб стварэнні ў Орлі гімназіі.

У арлянскай гімназіі ў двух паралельных першых класах вучыцца будзе 40 гімназістаў. Адзін вучань з Крывой (цяпер Бельская гміна) не будзе вучыцца ў Орлі. Жыхары гэтай вёскі хочуць захаваць у сябе пачатковую школу, а арлянскія ўлады не будуць вазіць толькі адну асобу.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*




*Першым з куратарыі выйшаў войт Міхал Іванчук. Толькі ён быў упэўнены, што гімназія ў Орлі паўстане.*

# Чаму ў гміне ёсць сынкі і пасынкі?

Улады Нарваўскай гміны да часткі вёсак, якія раскінуліся на правым беразе ракі Нарвы, ставяцца як мачыха да пасынкаў. А датычыць гэта вёсак былой Грамадскай рады ў Трасцянцы: Анцутаў, Агароднікаў, Бялкоў, Іванкаў-Рагазоў, Сакоў, Сацоў, Пухлаў і самой Трасцянкі.

Раней, калі войтам быў Ян Тапалянскі, у гэтай частцы гміны яшчэ нешта рабілася, галоўным чынам будаваліся і рамантаваліся дарогі, тэлефоны атрымалі Іванкі-Рагазы, а ў самой Трасцянцы паправілі тратуары, паклалі асфальт у напрамку Анцутаў і пабудавалі гравійку да могільніка. Пазней, калі войтам стаў Ян Іванюк, адзінай інвестыцыяй у нас быў рамонт клуба ў Трасцянцы. Тады ўсе работы вяліся пераважна ва ўсходняй і паўднёвай частцы гміны, на радзіме войта (ён родам з Карыціскаў). Вёскі на левым баку Нарвы атрымалі водаправоды і лепшыя дарогі.

Нядаўна гмінную адміністрацыю ўзначаліў Якуб Садоўскі, які ўжо запланаваў палажыць асфальт з родных Тыневіч да шашы Нарва — Бельск-Падляшскі. Радны Міраслаў Шалянговіч з Агароднік, які прадстаўляе таксама інтарэсы жыхароў Анцутаў, Бялкоў, Цісоў і Сакоў, хаця ўжо дэпутацкія абавязкі выконвае другую каденцыю, у Бялках з выбаршчыкамі не сустрэўся ні разу. А дырэкцыя ПКС з-за дрэннага стану дарог ужо спыніла курсіраванне аўтобусаў цераз Бялкі, Агароднікі ды Іванкі. Неадкладна трэба рамантаваць дарогі ў гэтых вёсках. Хацелася б верыць, што цяперашняя Рада гміны і войт прыхільным вокам глянуць і на праблемы заходняй часткі сваёй гміны.

**Мікалай Лук'янюк**

# Будуюць новую школу



У мінулым годзе распачалася пабудова новай школы ў Дубічах-Царкоўных. Сёння стаіць ужо амаль гатовы школьны мураваны будынак з усім тэхнічным аснашчэннем і тынкам усярэдзіне.

Новы школьны будынак у Дубічах-Царкоўных пабудаваны за гмінныя сродкі: 1 мільён 200 тысяч злотых, бо дапамога Куратарыі была чыста сімвалічнай — 20 тысяч злотых. Калі скончыліся крэдытныя сродкі, абмежаваныя да 60% гадавога бюджэту гміны, 28 студзеня 1999 г. створаны быў Грамадскі камітэт пабудовы Падставовай школы ў Дубічах-Царкоўных, які звярнуўся з заклікам да жыхароў гміны і прыхільнікаў хуткай пабудовы школы дапамагчы фінансава.

— Каб закончыць будову школьнага будынка, трэба яшчэ 500 тысяч злотых. Хаця выступілі мы за дапамогай у Міністэрства адукацыі, Установу фізкультуры і спорту ды Камісію нацыянальных меншасцей, нічога не атрымалі, хаця школы ў суседніх гмінах — Кляшчэлях, Орлі, Нараўцы — такую дапамогу з Міністэрства адукацыі атрымлівалі, — клапоціцца войт Анатоль Паўлоўскі. — Аднак, усё ж такі, я аптыміст і веру, што дапамога прыйдзе і да 1 верасня 1999 года здамо ў карыстанне школьны будынак, а пасля будзем думаць і пра завяршэнне спартыўнай залы. Калі б у нашай гміне была гімназія, трэба было б рамантаваць і стары мураваны будынак, бо ў новым будынку будзе месца толькі на падставовую школу.

Вучні з Дубіч-Царкоўных вучацца ў двух будынках, старэйшым драўляным і навейшым мураваным.

— Умовы працы ў старым драўляным будынку даволі складаныя, бо залы невялікія, абаграваныя печкамі, малыя калідоры і няма туалетаў, — кажа дырэктар Падставовай школы ў Дубічах Ніна Добаш-Карпюк. — У мураваным будынку ўмовы крыху лепшыя, бо і залы большыя, і туалет на месцы. Аднак мы ўжо чакаем і верым, што ад 1 верасня пачнем працаваць у новым будынку, дзе будзе 7 кабінетаў, святліца, бібліятэка, камп'ютэрная зала, сталовая, ну і будуецца спартыўная зала з дадатковым абсталяваннем.

26 лютага г.г. Рада гміны прыняла пастанову — аб ліквідацыі ад 1 верасня Падставовай школы ў Старым Корніне.

— Управа гміны і радныя рашыліся на закрыццё школы ў Старым Корніне, маючы на ўвазе лепшыя ўмовы ў Дубічах і фінансавыя ашчаднасці, — тлумачыць войт Анатоль Паўлоўскі. — Калі б мы закрылі школу ў Старым Корніне, засталося б у бюджэце прыблізна 200 тысяч злотых, якія можна было б выдаткаваць на завяршэнне пабудовы. Большасць бацькоў прыхільна ставіцца да гэтага. Трэба будзе яшчэ вырашыць справу працы настаўнікаў ліквідаванай школы, бо зараз прыняць на працу можам толькі некаторых.

**Аляксей Мароз**

PS. Ахвотныя фінансава дапамагчы пабудове школы ў Дубічах-Царкоўных могуць грашовыя ахвяраванні пералічваць на рахунак: Bank Spółdzielczy w Kleszczelach, konto nr 80750002-143-36711-9/3 Społeczny Komitet Budowy Szkoły Podstawowej w Dubiczach Cerkiewnych.

# За чаўночны гандаль

Некалькі тыдняў таму на беластоцкіх базарах поўна было „рускіх" чаўночнікаў, якія прадавалі розную драбязу. Можна было ў іх купіць тэкстыльныя вырабы, вопратку, металічныя вырабы і прадукты: тварог, сыр, смачную смятану, вяндліны. Аднак, бадай найаснոўнымі таварамі былі ўсялякія развесяляльныя напоі і тытунёвыя вырабы, прадаўцы якіх выстройваліся ў шпалеры пры ўваходзе на базар і там так праводзілі нахабнаватую прамоцыю сваіх тавараў: „Пан, брэндзі, водка, папяросы". На стадыёне „Ягелоніі" займалі яны, бывала, усю карону трыбуны. Аж недзе ў палове сакавіка прапалі яны, а на іх месцы можна было пабачыць некалькіх беластоцкіх гарадскіх стражнікаў. Прапалі не ўсе, бо амаль побач са згаданымі стражнікамі трымалі дзяжурства і „дылеры" тытуню і алкаголю, толькі паводзілі сябе больш стрымана. Калі ахоўнікі беластоцкага парадку сваю прысутнасць пераводзілі ў нейкае другое месца, за імі не аставаўся вакуум, бо прырода не церпіць вакууму, а быццам з-пад зямлі паяўляліся, як Ванька-ўстанька, усходнія чаўночнікі; такі свайго роду кругаварот, як у прыродзе.

Што прымусіла беластоцкія ўлады, акурат напярэдадні прыняцця Польшчы ў НАТО, пасляць на базары гарадскіх стражнікаў? Паводле іх саміх не згаданая эпахальная падзея, толькі пастанова Гарадской рады двухгадовай даўнасці, якая забараняе гандаль чужаземцам. Стражнікі паінфармавалі мяне, што не дазволяць гандляваць не толькі „рускім", але нават немцам і амерыканцам! А тая гарадская пастанова была прынята дзеля таго, каб выцясніць канкурэнтных мясцовым армянскіх гандляроў.

Азіяцкія дзелавікі перанеслі сваю дзейнасць на больш спрыяльныя тэрыторыі, пакідаючы Беласток беластачанам. І зажылі мясцовыя, бо з усходу валіўся навалам народ, які за шмоцце і мэблю пакідаў нашым долары. Калі вось урад з пачаткам мінулага года ўвёў абмежаванні для грамадзян краін СНД пры ўездзе ў Польшчу, беластоцкія дзелавікі паднялі вэрхал на ўсю Польшчу і прымусілі ўрад у Варшаве рэзка тыя абмежаванні палагодзіць. І ўсё было люба да паловы мінулага года, калі ў Расіі разрадзіўся эканамічны крызіс, вартасць расійскага рубля правалілася, а за рублём прапала і пакупніцкая магутнасць не толькі дзяржаў СНД, але галоўным чынам пакупніцкая сіла грамадзян тых дзяржаў. І спыніўся навал усходніх купцоў у Беласток, а памаленьку сталі сюды заглядаць прадаўцы...

У Беларусі людзі жывуць небагата. Для прыкладу: медсястра зарабляе раўнавартасць каля шасцідзесяці злотаў. Калі ўлічыць яшчэ, што, згодна савецкім стандартам, яна разведзена і мусіць пракарміць пару дзяцей, тады ясным становіцца, што з самой зарплаты выжыць туга. І вось тыя саветкі з залатымі зубамі і валакуць свае чамаданы з рознай драбязой, каб у Польшчы памяняць іх на долары. За скураную куртку з падчэпкай у Гродне трэба заплаціць дзвесце злотаў, а ўжо ў Беластоку можна такую прадаць за дзвесце пяцьдзесят або і за трыста; на адной такой куртцы атрымоўваецца выручка ў месячную зарплату.

З пункту гледжання польскай эканомікі такі гандаль павінен прыносіць урон і быць можа таму беластоцкія ўлады прыпомнілі пра сваю ранейшую пастанову. Аднак беластоцкія прадпрымальнікі заўважылі, што „рускія" сваімі таннымі таварамі прыцягаюць на базары пакупнікоў, якія пры нагодзе даюць і ім прыбытак. І яны сталі выказвацца за адмену пратэкцыяніцкай гарадской пастановы, за дазвол на карысны ўсім у Беластоку сімбіёз мясцовых прадаўцоў і суседніх чаўночнікаў.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Далі Бальцаровічу!

[1 ☞ працяг]
ліц, толькі сабраліся на плошчы. А паколькі была святая нядзеля, дык усё пачалося імшой. Пад дажджом са снегам.

— Саграшылі *рольнікі*, — пракаментавалі надвор'е нашы людзі.

— А дзе ж ты бачыў, каб нам было добра, — па-філасофску сказаў нехта.

Вядома, не з роскашы перад магілай Невядомаму жаўнеру сабраўся дваццацітысячны натоўп з усяе Польшчы. Над галовамі — мора белачырвоных і зялёных сялянскіх сцягоў ды транспарантаў з надпісамі пра нэндзу вёскі. Адмоўным героем з самага пачатку і да канца дэманстрацыі быў Бальцаровіч. Адзін стэнд паказваў яго, як на каленях цалуе ў задок паненку ў блакітнай сукенцы з зоркамі Еўрапейска Саюза, другі — як вынік дадавання дзвюх свіней: „свіння + свіння = Бальцаровіч". *Kiedy UW króluje, na wsi bieda panuje!* і *Były Dziady Mickiewicza, teraz są Balcerowicza.* Самы часты вокліч над плошчай: *Balcerowicz musi odejść!*

Дасталося і Мар'яну Кшаклеўскаму, пра якога на адным транспаранце напісалі: *Miałeś chamie złoty róg...* А пра яго партыю на іншым: *Kiedy rządzi AWS, żyjesz jak bezpański pies.*

Ніводзін з выступаючых на трыбуне таксама не бачыў, каб гаспадару было добра. Згодна наракалі Лешак Мілер з СЛД („жывем у краіне, дзе ўлада высылае паліцыю на сялян"), Ян Альшэўскі з РОП („наш урад меў план дапамогі вёсцы, але нас апракінулі"), Ян Лапушанскі з кругоў Радыё Марыя („зло ад таго, што ўрад хоча, каб наша сталіца была ў Брусэлі"). Апрача цэлай плоймы палітыкаў і ахоўнікаў на трыбуну палезлі прафсаюзныя дзеячы, сяляне, журналісты, народныя спявачкі. Аж не вытрымалі дошкі! Каб не сагналі трохі народу, рухнула б уся канструкцыя.



Фота: „Rzeczpospolita"

— Вось табе і на, — пракаментавалі нашы гаспадары. — Якое польскае *рольніцтва*, такую і трыбуну зрабілі.

Кветак пад помнікам Вітасу мы не склалі. Хутчэй ехалі дахаты. Пераканаты ў тым, што добра такі далі Бальцаровічу.

— Я б на яго месцы ні дня не застаўся на пасадзе, — кажа Сяргей Кучка з Махнатага. А іншыя падтакваюць, бы пацвярджаючы адзін з лозунгаў дэманстрацыі: „Мужыкі разам!"

**Мікола ВАЎРАНЮК**

PS. Два дні раней Бальцаровіч атрымаў адабрэнне Сейма. Любімец нашых сялян Уладзімеж Цімашэвіч устрымаўся ад голасу.

# Ці будуць лесанасаджэнні?

Ваяводская і Гмінная ўправы ПСЛ арганізавалі ў Гайнаўцы 17 сакавіка г.г. сустрэчу пасла, члена Галоўнай рады ПСЛ, Януша Пехацінськага з сялянамі Гайнаўшчыны. У спатканні прымалі ўдзел таксама войты, прадстаўнікі навакольных гмін і Гайнаўскага старастваа.

— Мы на Гайнаўшчыне найбольш адчуваем заняпад у сельскай гаспадарцы. Калі не зменіцца на лепшае, трэба будзе ў нас зрабіць лесанасаджэнні і абуць пасталы, — сказаў у час сустрэчы Мікалай Яноўскі — гаспадар з Пераходаў, намеснік старшыні Ваяводскай управы ПСЛ. — Давайце арганізавацца на маніфестацыю ў Варшаву. Добра было б сабраць людзей на 10 аўтобусаў і паказаць, што мы не горшыя за іншых.

Вядомы нашым жыхарам з выступленняў па тэлебачанні пасол ПСЛ Януш Пехацінські крытычна ацаніў дзейнасць урада, звяртаючы асаблівую ўвагу на абставіны, у якіх апынулася вёска. Адзначыў ён, што на 40% панізіўся даход сельскіх сем'яў, а паніжэнне інфляцыі за кошт гаспадароў хутка выклікае адмоўныя рэзультаты ў розных прадпрыемствах, якія сваю вытворчасць прадаюць вёсцы.

Прысутныя даведаліся таксама, што на больш чым дзве тысячы сельскіх гмін толькі 420 атрымае абяцаныя міністрам нацыянальнай адукацыі аўтобусы для давозу вучняў у гмінныя школы. Гміны, аднак, будуць мусалі ўплаціць яшчэ па 100 тысяч злотых. Пасол Януш Пехацінські заклікаў прысутных да ўдзелу ў маніфестацыі 21 сакавіка ў Варшаве, адмяжоўваючыся такім чынам ад ранейшай маніфестацыі „Самаабароны" і яе лідэра Анджэя Лепэра.

Аднак неўзабаве высветлілася, што на зале знаходзіцца таксама прыхільнікі шэфа „Самаабароны".

— Толькі Лепэр — наш сапраўдны абаронца! Пойдзем на вуліцу, бо мусім выходзіць, — сказаў Ян Мароз з Дубіч-Асочных. — Падаткі ў нас завялікія і калі б не дадатковы заробак, не хапіла б мне грошай. Не ведаю адкуль налічваюць нам па 8 мільёнаў даходу ад аднаго гектара, калі ў нас няма яго ўвогуле.

Аляксандр Шыдла з Махнатага хацеў даведацца ці сапраўды на вёсцы застанецца толькі 5% жыхароў, якія будуць заняты ў сельскай гаспадарцы. Госць адказаў, што гэты працэс яшчэ няхутка пачнецца, але хутчэй 4 мільёны людзей стануць беспрацоўнымі, многія па прычыне банкруцтва прадпрыемстваў. Аляксандр Шыдла расказ пра іншыя турботы закончыў наступным чынам: „Збожжа слабенькае, свіння затлустая, а адкуль жа грошы браць?!" Пытаўся таксама, ці з 10-гадовым трактарам, старымі сельскагаспадарчымі машынамі і невялікай гаспадаркай можна будзе быць канкурэнтным для багатых фермераў з краін Еўрапейскага Саюза.

— Закрылі нам экспарт малака і свініны на захад, збожжа, кажуць, замякkae, сталь зацвёрдая, дык што ж нам прадаваць. Усё атрымліваецца так, як у казцы пра рака, шчупака і лебедзя, — сказаў Яўген Смольскі з Ляўкова — старшыня Гміннай управы ПСЛ у Нараўцы. — Калісь і яблыкі можна было прадаваць колькі хочаш і на ўсход прадукты нашы дзень і ноч везлі вагонамі, а цяпер усё спынілася. Можна было б жа наладзіць супрацоўніцтва паміж нашымі ўладамі і тымі за мяжою і прадаваць хаця б нашы прадукты.

Мікалай Яноўскі даў прадстаўнікам самаўрадаў канкрэтную прапанову продажу збожжа, якога не хапае на Беларусі, а былы пасол ад ПСЛ Аляксей Сямянюк з Белавежы апрача сеймавых успамінаў ставіў патрабаванні наконт турызму. Пытаўся, між іншым, пра абяцаны ўрадам план развіцця турызму на Гайнаўшчыне і закрануў справу сельскіх кааператываў, якія апошнім часам сталі нерэнтабельнымі. У час сустрэчы можна было таксама даведацца, што ў Польшчы амаль 4 мільёны гаспадароў, у якіх прынамсі 1 гектар зямлі, 1 мільён 300 тысяч тых, якія плацяць страхавую складчыну ў КРУС, але толькі 800 тысяч такіх гаспадарак, што ад продажу сельгаспрадуктаў атрымліваюць прынамсі 5 тысяч злотых, найбольш прыстасаваных да канкурэнцыі з захадам.

Спатканне закончылася стварэннем арганізацыйнага камітэта для падрыхтоўкі выезду на маніфестацыю ў Варшаву.

**Аляксей МАРОЗ**

# Аднак заложнікі

[1 ☞ працяг]
та былі РОП, КПН, ЗХН, частка АВС, „Нашэ коло", якое прадстаўляе інтарэсы „Радыё Марыя" і ПСЛ. Гэтая апошняя партыя актыўна дзейнічае на Беласточчыне ў беларускім асяроддзі і, самае смешнае — мае тут сваіх прыхільнікаў. Не здзіўляе становішча РОПу, ЗХНу, КПНу ці „Радыё Марыя". Гэтыя партыі адкрыта спасылаюцца на ідэалогію канца XIX стагоддзя, выпрацаваную ідэолагам нацыянал-дэмакратаў Раманам Дмоўскім. Яго ідэя была даволі простая: Польшча без нацыянальных меншасцей. Беларусаў, напрыклад, Дмоўскі лічыў горшым гатункам палякаў, а беларускую мову — крэсавым польскім дыялектам. Нядаўна Сейм амаль аднагалосна прыняў спецыяльную пастанову для ўшанавання памяці Рамана Дмоўскага. Таму не здзіўляе, што ў парламенце, у якім дэпутаты спасылаюцца на такія традыцыі, сам лозунг — „нацыянальныя меншасці" — можа выклікаць раздражненне ў некаторых паслоў.

18 сакавіка, калі камісія Яцка Кураня прадставіла праект „Закона аб меншасцях", паслы-патрыёты пачалі істэрычна крычаць пра сітуацыю палякаў у Літве, Беларусі, на Украіне. З гэтых выказванняў вынікала, што дзяржава не мае ніякіх абавязкаў у адносінах да сваіх грамадзян, якія плацяць падаткі і служаць у польскім войску, а павінна выдзяляць большыя сродкі на дапамогу для палякаў-грамадзян суседніх краін. Вечарам у тэлепраграме „W centrum uwagi" выступілі старшыня сеймавай камісіі Яцэк Курань і шэф нацыянал-хрысціян (ЗХН) Мар'ян Пілка. Гэты апошні на ўсе аргументы Кураня адказваў, што Польшча павінна ў адносінах да сваіх нацыянальных меншасцей весці такую палітыку, якую ўрады суседніх краін вядуць у адносінах да палякаў. Логіка прапанаванай лідэрам адной з найбольш уплывовых партый палітыкі вызначае меншасцям ролю заложнікаў. Напрыклад, сітуацыя беларусаў-грамадзян Польшчы была б у руках улад Беларусі.

Нешта мяняецца ў нацыянальнай палітыцы Польшчы. Раней ні Пілка, ні Сломка не асмеліліся б на такую дэмагогію, якую цяпер прапаведуюць у Сейме. Пры камуністах былі таксама перыяды талерантнасці для меншасцей і поўнага ігнаравання іх нацыянальных патрабаванняў. Відаць, і ў гэтай галіне тутэйшая дэмакратыя вяртаецца да правераных узораў. Перыяд прыхільнасці для меншасцей трываў і так даволі доўга — амаль 10 гадоў.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

# Літаратурная старонка (471)

Міхась Андрасюк

## Кароткая гісторыя Партыі кучаравых

### 5. Югаславія

— А заўтра тут будзе Югаславія, — адвакат Нязгула склаў прачытаную газету, выгадней усіснуўся ў старое крэсла і знерухомелым вокам упіўся ў столь.

— Езус-Марыя! — войкнула пані Анельця і таксама ж прабегла вачыма за зрокам пана адваката. Можа спадзявалася ўгледзець там сербскія самалёты, як у зграбных, сталёва-алюмініевым строю, выпаўнішы неба злавесным гулам, спяшаюць бамбіць збунтаванае Косава? А, можа, пасыплюцца са столі брудныя, неаголеныя парашутысты, каб з дзікім крыкам уварвацца ў пакой і раз яшчэ дашчэнту знішчыць збудаваную цяжкай працай сякую-такую стабілізацыю гэтага дома?!.

Аднак ніякія дантэйскія сцэны не парушалі спакой на белай роўнядзі. Праўда, можна было прыкмеціць нейкі рух, нервовую мітусню, аднак усё што адбывалася там, адбывалася не па мілітарных прычынах, а па чыста біялагічных: муха ўзлазіла на муху, праяўляючы неабвержную цягу да прадаўжэння крылатага роду. Можна такое рабіць, час ад часу нават трэба, аднак трэба ж ведаць і месца, і час, не ўспамінаючы ўжо пра павагу да гаспадароў. У другім выпадку вынік можа аказацца зусім нязгодным з ранейшымі намерамі. І тут вось непрыстойнымі паводзінамі мушыная пара падпісала на сябе смяротны прыгавор. Сэрца пані Анельцы, добрае і чуллівае, выхаванае ў прыстойнай хрысціянскай сям'і, не магло сцярпець такую яўную парнаграфію і рука, ідучы за голасам гэтага сэрца, схапіла прачытаную газету і ляснула ў столь. Па мухах асталося тое, што астаецца па жыхарах харвацкіх і мусульманскіх вёсак пасля сербскага пераходу. Скасаваўшы распусту ў самым яе зачатку, пані Анельця пасвятлела, папрыгажэла, памаладзела на гадоў ці не дзесяць і ганарыста выпінаючы грудзі паплыла ў гардэроб падрыхтаваць пану адвакату яго святочны касцюм. Такія і былі нядзельныя раніцы. Пані Анельця рыхтавала касцюм, пан адвакат апранаў яго і трэцямайскай вуліцай маршыраваў на сустрэчу з Усявышнім. Мінаючы базар сплёўваў тры разы ў бок натоўпу, які замест аддавацца духоўным раскошам, мітусіцца за малымі, цялеснымі справамі.

Чым пан Нязгула жыў у будзённыя дні — цяжка здагадацца. Вядома толькі, што адвакацкай практыкай не займаўся. Свабодныя хвіліны ахвяраваў палітычнай дзейнасці, удастойваючы сваёй асобай рады нейкай маленькай правай партыі. Пра палітыку ведаў тое, што і іншыя грамадзяне нашай краіны, гэта значыць — усё.

Тым часам пані Анельця справілася са святочным гардэробам. Ачышчаны з найменшай пылінкі пінжак спачыў на спінцы крэсла, там жа знайшлі сабе месца і нагавіцы, а з кашуляй — адпрасаванай і свежай — пані Анельця паявілася перад абліччам свайго дабрадзея. Пан Нязгула сядзеў у крэсле так, як раней мы яго тут пакінулі, і толькі замест у столь, зноўку глядзеў у злавесную газету.

— Заўтра тут будзе Югаславія. А ўсё дзякуй нацыяналістам.

— Езус-Марыя, — войкнула пані Анельця, бо гэта была добрая пані і яна заўжды войкала, асабліва пачуўшы слова „нацыяналіст" або „Югаславія".

— Хочуць дзяліць мястэчка на сваіх і чужых, — ляснуў кулаком адвакат у раскрытую газету.

Калі ў гэты момант патрэскаліся ўсе шыбы ў рэдакцыйных вокнах, не трэба адразу думаць пра ўздзеянне незямных ці замагільных сіл. Чалавечыя магчымасці таксама ж бываюць нязведанымі і неабдымнымі.

— Але хай сабе думаюць! О, не! Будзем змагацца, — трэснуў Нязгула яшчэ раз у газету і ў гэты раз пасыпаліся ў далёкай рэдакцыі аўчандолі, а самы вялікі аскепак прадзіравіў галаву рэдактара адказнага за палітычную старонку.

З-за ўсяго гэтага наступныя весткі пра Партыю кучаравых паявіліся ў перайначанай, моцна заблытанай форме.

Думаю, можна дараваць няшчаснаму рэдактару. Кожны ж ведае, што з дзіравай галавы думкі ўцякаюць, не паспеўшы дасягнуць сталы, разважлівы ўзрост. Але, гутарка тут не пра ананімнага рэдактара, а пра пана Нязгулу. Пойдзем следам за ягонымі крокамі.

Ступаючы на мястэчковы базар у святочную раніцу, пан Нязгула адчуваў агіду да самога сябе. Ягоная душа, згвалтаваная навакольнай грубай мітуснёю, пахлёбваючы і сёрбаючы носам, паслушна плялася за рэштай цела. Душа — самы разумны з чалавечых органаў, ды пэўна і здагадалася, што змаганню за слушныя ідэі не абысціся без духоўных ахвяр і не перамагчы без дапамогі чыста фізічных рэквізітаў, такіх як вінтоўкі, танкі ці бамбавозы.

Перасоўваючыся ад ларка да ларка, ад століка да століка, пан Нязгула пільна ўзіраўся ў хаатычна раскінутыя копкі таннай, памятай бялізны, там-сям запускаў далонь у кучы швэдраў, стараючыся вымацаць прыемную, сталёвую гладзь танкавага дула, уздуты, цяжарны жывот бамбавоза, ці — у найгоршым выпадку — драўляны прыклад калашнікава. Аднак рука, заглыбляючыся ў гурбы трантаў, раз-пораз вярталася з нічым, а прадаўцы на канфідэнцыяльна пастаўленае пытанне адказвалі: няма, не было, не будзе!..

А людзі ж кажуць: на базары, у рускіх, усё ёсць...

Значыць — змова. Значыць — дагаварыліся. Спазніўся. Усё даўно ў сербскіх руках!..

За базарнай агародкай адазвалася скрыпка, гармонік падмацаваў мелодыю і перамяшаўшыся з вострым, крынічным голасам салісткі, кінуў у натоўп. З дапамогай гродзенскай капэлы левыя дэмакраты распачалі якраз выбарчую кампанію. Гэты неспадзяваны ўдар з левай канчаткова ашарашыў пана Нязгулу. Быў апошняй кропляй, кропляй, якая перапоўніла чару горычы. Яму стала ўсё адно.

Са шпаркасцю, якое і сам па сабе не спадзяваўся, падхапіў пан Нязгула сядзячую пад плотам, а цяпер анямелую ад нечаканасці румынку і кінуўся ў ашалелы, дзікі танец. З румынскага заполку пасыпаліся на тратуар мізэрныя медзякі і пабразгваючы, падскокваючы ў рытм музыкі, паразбягаліся ва ўсіх напрамках.

*(заканчэнне будзе)*



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Агнешка ГАЛІМСКАЯ** нарадзілася 13.08.1982 г. Закончыла Пачатковую школу ў Старым Корніне. Зараз — вучаніца II „ц" класа Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Жыве ў Ягадніках.

Дэбютавала на старонках „Зоркі" ў 1997 г. пад псеўданімам „Агнешка Х.". Друкавалася ў часопісе маладых літаратараў „Першацвет" у Мінску і ў калектыўных зборніках.

* * *

Яно распаўсюджваецца
арыгінальна
асноўнае ў мінулым
бачыць рэчы
не глядзіць на людзей
гэта абгрунтаваная п'еса
раздзяляе ўзоры
без прыпынку
без адчування

ніхто ўжо не крычыць

### Назначаная проза

Бязлітасна таленавіты празаік
выяўляе кароценькія замалёўкі
пасля пасіўнай рэвалюцыі.

Бязлітасна таленавіты празаік
лаканічна смяецца
з задуманай магутнасці.

Бязлітасна таленавіты празаік
рэагуе на прыгнёт зморaных думак —
— набытак трагічных абставін.

Бязлітасна таленавіты празаік
майстар з падарожжаў
пратэстуе бяссілай
супраць народных мас.

не будзе непрадбачаных...

### Абмен

Магіла праўды выяўяецца ахвярай
прыніжэннем маральнасці
мы дэманструем дазволеныя грахі
наладжваем паклоны ў розных
пазіцыях
запаўняем праблемы цудоўнымі
ілюзіямі
І застанемся
сучасныя
больш задаволеныя
такія ж аднолькавыя
ў сваім праміненні

### Тэатр

Дыялогі імкнуцца
стаць узнёслым канцэртам
усіх людзей

З цягам часу — традыцыя

Усё жыццё
спрацоўваем арганізацыйна

Нястрымна
адзначаем становішча

Арганізуем экзістэнцыю
нас — акцёраў

### Прэм'ера

Першае месца
гаворыць дастаткова.

Першае месца
спыняе прафесіяналаў.

Першае месца
бачыць у час адказу.

Першае месца
змагаецца з удзельнікам.

Першае месца
ў некаторых выпадках
ёсць прадбачанае для ўсіх.



Ірэна Кулік

* * *

Танцую на месяцы
Адцвітаючага сёння
Ганю пёры
Цяжкага воблака
Клічу спакой
Малалетняй цемры
Б'ю па цярплівасці
Тонкага
Існавання

Міра Лукша

## Панас

— Ой, які ты брыдкі-брыдкі! Цьфу на цябе! — глянула была на румяны тварык Панаса суседка. — А назвалі цябе, хай на іх! — Панас!

Гэта каб не сурочыць — падміргнула матцы немаўляці, але ж сапраўды скаланулася: Панасік не быў прыгожы, нават як на нованароджанае стварэнне людскога роду.

Але ўсё ж замова Макарчыхі падзейнічала, ці што, бо вырас Панас на хлопца харошага і разумнага. Шкада, што не перадасць свае красы і розуму ў наступнае пакаленне гэты зусім талковы хлопец, абдораны бацькамі да таго ж непапулярным і выклікаючым усмешку ў паненак імем. Ды што яму:

— Па нас хоць бы патоп! — махае рукой Панас, невядома, ці з адчаем, ці абыякава, папіваючы сабе піва пад вясковай крамай.

... Гэта ўсё каб угаварыць і загаварыць лёс. Калі нават не слухае ён цябе, то ў рэшце рэшт абрыднеш яму, як тая назойлівая муха. Калі не прыхлабушчыць мухалапкай, то мо выжане ручніком, а кыш! — ляці, паскуда, сваёю дарогай!

Не выгаварвай лёсу тое, што прыносіць, лепш адразу дагаварыся з ім адносна варункаў.

Варункова нішто не пойдзе ў залік, няма паўторных экзаменаў з веснавое маладосці перанесеных на асеннюю сесію. Запісалі ўсё ў тваёй заліковай кнізе, у індэксе.

На індэксе будзеш і ты, і твая чэкавая кніжка з фальшывымі подпісамі, не спаляць і змарнаваных лісткоў з пячаткай „Анулявана", адкуль ні возьмуцца вырваныя хвіліны і тыдні, пра якія даўно забыўся і ты, і твае дзённікі, якія ты пакінуў, каб іншыя параўналі свой лёс з тваім і палічылі цябе... за... Альбо і кінуў ты іх весці, а яны ўсё пішуцца, пішуцца...

І ты, сам не свой, яшчэ і яшчэ раз будзеш хацець выцягнуць свой фант-лёс на латарэі, але ці выйграеш нешта вартае старання?

Панас, што па нас? Загавораная брыдота ці краса ў прах аберНуцца. Добра, што на спажыву больш ад нас вечным дрэвам або хоць чарвячкам, якім адзін дзень — век.

„Зорка" № 14 04.04.1999


# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## У беластоцкай „чацвёрцы"



*Вясёлая сябрына з ПШ н-р 4 у Беластоку. У першым радзе злева: Магда Карчэўская, Магда Сакові, Мая Більмін, Эля Юшчук; у другім радзе: Аня Яканюк і Караль Заборскі.*

Другакласнікі з ПШ н-р 4 у Беластоку якраз знаёміліся з літарай „З". І з гэтай нагоды наладзілі яны сустрэчу з „Зоркай". Былі таксама першакласніцы: Магда Саковіч і Аня Яканюк. Шкада толькі, што іх класныя сяброўкі, якія вывучаюць беларускую мову — Оля Максімюк і Сільвія Чарнякевіч якраз захварэлі.

— На нашых занятках заўсёды весела, — кажуць дзеці.

І сапраўды, у час нашай сустрэчы дзеці былі вясёлыя. Успаміналі забаўныя прыгоды, што здарыліся на ўроках беларускай мовы. Вядома, найбольшыя жартаўнікі ў групе — хлопцы: Караль Заборскі і Міхась Каліна. Таксама Эля Юшчук умее рассмяшыць кампанію да слёз.

— Мне падабаецца школа, — кажа Караль. — Тут лёгка згубіцца. Гэта вельмі карысна, калі класныя сяброўкі пачынаюць сварыцца.

— Дзеткі чытаюць на пяць і шэсць, — кажа настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк. — Калі рыхтуемся да выступлення, дапамагаюць бацькі. Так было ў выпадку, калі дзеці з „чацвёркі" рыхтаваліся да вечарыны прысвечанай творчасці Віктара Шведа і яго новай кніжкі „Вершы Натальцы". Бацькі дапамаглі вывучыць на памяць вершы паэта. Гэтая вечарына запамяталася і таму, што гераіняй кніжкі была аднакласніца — Наталька Швед.

Мая Більмін расказала пра ўдзельніцтва ў пластычным конкурсе наладжаным „Gazetą Wyborczą".

— Трэба было намаляваць як будзе выглядаць сваты Мікалай праз 200 або 300 гадоў, — успамінае Мая. — Я даслала чатыры малюнкі, і атрымала ўзнагароду — паблыўку ў „Макдональдсе".

Дзеткі расказалі таксама пра новую п'есу, якую рыхтуюць на ўроках беларускай мовы. Яе загаловак — „Каза-манюка".

— Я буду дзедам і ваўком, — кажа Караль. Словы сябры ўзбуджаюць вясёлы смех.

— Нядаўна я хварэла, сумавала, — кажа Магда Саковіч, — а як вярнулася ў школу — адразу павесялела. І дзве шасцёркі зарабіла!

ЗОРКА

*Фота Г. КАНДРАЦЮК*

Францішак КАБРЫНЬЧУК

### Вярба

Галаву вярба схіліла
над глыбокім плёсам.
Выкупала ў вадзе чыстай
вербавыя косы.

Высушыла ўсе лісточкі
на сонейку веснім,
заспявала, зашумела
вербавую песню.

*З польскай пераклаў*
*Віктар ШВЕД*

## Рэкс-разбойнік

Хто з нас у дзіцячыя гады не любіў глядзець казкі? З нецярплівасцю мы чыкалі сямі гадзін вечара, калі ў тэлебачанні пачыналася „Пчолка Мая". З цікавасцю аглядалі мы дваццаціхвілінную перадачу і з нецярплівасцю чакалі наступнай. Героі фільма былі мілыя і зычлівыя. Панавала атмасфера цяпла і сяброўства. Кожная частка мела павучальны змест. Малыя гледачы хутка засвойвалі новыя веды і вучыліся адрозніваць добрае ад злога.

А цяпер? Давайце спрабуем апісаць цяперашнія казкі і дзяцей, якія іх аглядаюць. Дазвольце, што пакарыстаюся прыкладам майго малодшага брата і яго сяброў.

Казкі пераважна пачынаюцца з самай раніцы. Цэлы дзень ля тэлевізара сядзіць грамада хлапчукоў і дзяўчынак. Не было б у гэтым нічога дрэннага, калі б аўтары ў гэтых казках пазбягалі нахабнасці, насілля і праліцця крыві. Героямі фільмаў часта з'яўляюцца панурыя асілкі. Свае праблемы вырашаюць яны з дапамогай розных машын і пісталетаў. Дзеля якой мэты выпускаюцца такія казкі?

Што цяпер можа думаць 5-6-гадовае дзіця, калі ўбачыць фільм, у якім адзін герой забівае другога? А што зробіць хлопчык пасля такога фільма? Пабяжыць на кухню, возьме мамін валок і будзе крычаць, што ён ваяр „Power Rangers".

Казка павінна вучыць і забаўляць, а не паказваць жахлівыя сцэны.

Дарагія рэжысёры мультфільмаў, перастаньце рабіць такія казкі, бо цяперашнія дзеці вырастуць на бандытаў і хуліганаў!

**Анэта ЯКАНЮК, ПШ у Нарве**



*Дзеткі з беларускага прадшколля ў Беластоку прадстаўляюць новы спектакль пад загалоўкам „Вячоркі". Пастаноўка адбылася 18 сакавіка г.г. і сталася сімпатычнай падзеяй у жыцці Дзяцячага садка н-р 14. „Вячоркі" — гэта спектакль-гульня, насычаны народнымі загадкамі, прыказкамі і прымаўкамі ды беларускімі народнымі песнямі і танцамі: лявоніхай і полькай-бульбай.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Польска-беларуская крыжаванка № 14

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Błąd | ▼ | Śmieci / Mnich | ▼ | Wymowa / Stragan | Tył | ▼ |
| ▶ | | ▼ | | ▼ | | |
| Mama ▶ | | | | | Oka | |
| | Nuta ▶ | | | | ▼ | |
| Ro-wek ▶ | | | | | | |
| | Cha-kas ▶ | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 10:** Пар, барана, барада, галава, каморка. Багна, пара, марал, рада, навык, павага.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Дар'юш Ляўчук** з Чыжык, **Святлана Федарчук**, **Эва Русіновіч**, **Аня Лапінская** з Нарвы, **Павел Ільяшук**, **Івона Гаўрылюк**, **Сільвія Пятрышык** з Кленік, **Паўліна Іванюк** і **Юліта Гайко** з Бельска-Падляшскага, **Наталля Сцепанюк** з Беластока. Віншуем!

# Красавік

Ці ведаеце вы, чаму ў Красавіку так хораша і столькі красак?

Ды таму, што Красавік — мастак.

Быў час, калі Красавік самы першы раз прыйшоў на зямлю. І не спадабалася яму пасля зімы пажоўклая трава, шэрае неба, чорная зямля... І рашыў ён усё-ўсё перафарбаваць.

Узяў Красавік фарбы і пэндзаль і перш-наперш памаляваў неба ў сініcіні колер, а на ім белыя-бялюткія аблокі. Затым перамаляваў палі. Дзе зялёнай, дзе жаўтаватай, дзе шэрай фарбай мазнуў. Лугі вымаляваў у ясна-зялёны колер, а па тых лугах-мурагах давай пырскаць то блакітнай, то жоўтай, то белай, то ружовай фарбамі... І якіх толькі красачак не з'явілася на лузе! Аж у вачах мільгаціць.

— Ну, а цяпер падамся ў лясы, — сказаў Красавік, — гляну, што там трэба падмаляваць.

І падаўся ў лес.

— Эгэ-гэ-гэ! — загукаў ён. — Сосны, яліны! Вольхі, асіны! Дубы, ясені! Ліпы, клёны, бярозы! Усе, хто можа, ідзіце да мяне!

І пайшлі да Красавіка дрэвы, а ён каму чырвоны камель намалюе, каму жаўтаваты, каму карычневы, шэры, чорны, срабрысты... Амаль усе фарбы вымаляваў, аж стаміўся. А тут прыбегла да яго Бярэзінка, задыхалася, ледзь стаіць з апушчаным веццем.

Глянуў Красавік, а ў яго ўсяго толькі адна белая фарба асталася.

— Будзеш белаю, — кажа Бярэзінцы.

— Няхай белаю, толькі не чорнаю... Не хачу быць чорнаю!

А да гэтага Бяроза чорнаю была.

Пачаў Красавік маляваць Бярозу ў белы колер, але фарбы не хапіла, дык сям-там чорныя лапікі засталіся.

Адышоўся, глянуў на сваю работу: стаіць сярод чырвоных соснаў ды шэрых ялін белая-бялюткая Бярозка, нібы тая дзяўчынка ў белай сукеначцы.

І такая яна стала прыгожая, што Красавік ажно засмяяўся. Адклаў ён убок свае фарбы і пэндзяль, выразаў з вербалозу дудку, сеў пад бярозаю ды зайграў.

І так прыгожа, што ў бярозы аж слёзы пакаціліся.

І цяпер, бывае, вясною сядзіць Красавік пад бярозаю і грае на дудачцы. Пайдзіце ў вясновы лес і прыслухайцеся, можа, і сустрэнецеся з Красавіком... І на Бярэзінку паглядзіце... Стаіць яна, апусціўшы вецце, слухае песню Красавіка, і часам капне на зямлю празрыстая бярозавая слязінка.

Але бярозавыя слёзы не салёныя, а салодкія, бо плача яна не ад гора, а з радасці.

**Клаўдзія Каліна**



*Марта Стшэльчык з Беластока.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Садочак

Я ўжо ўстала.
На траве раса ляжала.
Сонца з-за хмар выглядала, —
Мне здалося, што смяялася!
Я хутчэй у садок пайшла,
Яблык спелы там знайшла,
А пасля сябры прыйшлі
І гулялі разам мы.
Потым стала ўжо змяркацца,
Сталі крыху мы баяцца
І пайшлі з таго садочка
Кожны да свайго дамочка.

**Бэата Мінько, ПШ у Ласінцы**

# Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Як Любачка з татам у Мінск ездзіла**

Прыехала Любачка з татам у Мінск і здзівілася — усё як у казцы: вунь той дзядзька на ваўка шэрага падобны — зверам на ўсіх глядзіць, хаця і не галодны нібыта: вунь які карак адгадаваў! А вунь той — як ліс: усмешка лагодненькая, нібыта і шчырая, а руку тымчасам у чужую кішэню скіроўвае. А той — як вожык: натапырыў іголкі і не падпускае нікога: не верыць, што яго цукеркамі частуюць.

Падзівілася Любка ды пытае:

— Тата, а чаму тут усе — як звяры?

А татка кажа:

— Бо гэта не краіна, Любачка, а казка. Помніш, я табе кніжку чытаў — „Казкі беларускія"? Дык усе гэтыя людзі яе і напісалі. Пра саміх сябе. А пра сябе — хіба зманіш?!

*(працяг будзе)*

**Анатоль Кірвель**

# На Сустрэчах... крадуць ды мардуюць!



*Яны рашылі падрыхтаваць у зялёную ноч атаку на жыццё свайго куратара — мянушка „Рэжысёр"— які прымусіў вывучыць іх напамяць тэксты нейкага Шэкспіра...*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

***(фельетон)***

Штогод у канцы студзеня і пачатку лютага расце лік узломаў у магазіны, а дакладней — у хімічныя крамы, адкуль прападае зубная паста. У пачатку трэба рэзка паставіць пытанне: *Чаму злачыннасць узрастае якраз тады?*

Адказ просты: у гэты час праходзяць „дэмаралізуючыя" Сустрэчы „Зоркі". Беручы пад увагу факт, што адбываюцца яны ўжо XVI год, і што некаторыя ўдзельнікі прымаюць у іх удзел чарговы раз, зразумела само па сабе, што яны маюць дасведчанне ў „зладзействе". Што ж супольнага з Сустрэчамі мае зубная паста, падумаеце. Дык вось: дзеля здзяйснення сказанага спатрэбіліся элементы: „Абстрыжаныя беларускі-скіны, недапечаная Памела Андэрсан, хлопцы з псіхічнымі хістаннямі, якія „не будуць пісаць вершаў", а „астануцца мастакамі" ды „элегантныя дзівачкі", якія плануюць абрэзаць сабе вуха. Яны захацелі наладзіць закалот у апошнюю ноч *імпрэзкі*. Яны рашылі падрыхтаваць у *зялёную ноч* атаку на жыццё свайго куратара — мянушка „Рэжысёр"—які прымусіў вывучыць іх напамяць тэксты нейкага Шэкспіра (з пратакола допытаў абвінавачаных). Аднак сярод злачынцаў апынулася нейкая К. Л. (мянушка „Сляпая"), якая добра не пацэліла... пастай. Такім чынам, замест намечанага „Рэжысёра" пацярпеў П. П. (мянушка „Антось").

Ужо на наступны дзень следчы камісар Г. Кандрацюк-Свярубская (ksywa „Зорка") ды унтэр-камісар Валянціна Бабулевіч (мянушка „Споко"), злавілі віноўнікаў. „Антось" карыстаючыся прывілеяй „апошняга жадання" наказаў пакараць „пастаўцаў": „Сляпую", „Дзівачку" і „Мажэну М.". Як высветлілася ў выніку допытаў, прызнаваліся яны толькі ў спробе скрытазабойства пастаяннага „Рэжысёра", у руйнаванні гасцініцы абвінавацілі яны нейкую А. Ф. (ksywa „Фёна") і А. В. (ksywa „Ваўрыла"). Справу забойства „Антося" тлумачаць наступным чынам:

— „Антось" быў нязручным сведкам, — сказала „Сляпая".

— Ён паявіўся ў неадпаведнай хвіліне і месцы, — дадала „Мажэна М.".

— Добра, што не было там, у тым жа часе і месцы, Д. Ф. (мянушка „Мучыцель"). Той даў бы нюхнуць нам пораху! — уздыхнула „Дзівачка".

**Жанэта Роля**

PS. Усіх, каму з віны злачынцаў 5.02.1999 г. было *мятна*, шчыра перапрашаем.

**Ад рэдакцыі:** У выніку далейшага следства выявілася, што на жыццё „Рэжысёра" замахнуўся таксама нейкі А. К. (ksywa „Бандэрас"), якому спадабалася была шапка ўцалелай ахвяры. Злоўлены за руку (з нажом) апраўдваўся:

— Свой чын я задумаў пад паганым уплывам хеўры „Элегантнай дзівачкі".

**Следчы камісар ГК-С „З"**

# Легенда пра царкву ў Дубічах-Царкоўных

Дубічы-Царкоўныя — старая падляшская вёска, якая ляжыць на ўскраі Белавежскай пушчы. Ад пачатку свайго існавання вёска звязана была з усходнім кругам культуры, а таксама з праваслаўным абрадам. Ужо сама назва гаворыць пра тое, што знаходзілася там царква.

Першая інфармацыя пра царкву паходзіць з 1533 года. Сярод мясцовай грамадскасці ўсё жывая легенда, што ад паўстання Дубіч існавала тут царква. Стаяла яна на ўзгорку каля ўрочышча Бахматы, недалёка ракі Арлянкі.

На месцы колішняй царквы св.св. апосталаў Пятра і Паўла знаходзіцца цяпер крыж.

Гісторыя храма таямнічая — легенда гаворыць, што правалілася яна пад зямлю, а на Вялікдзень на тым жа месцы можна пачуць голас царкоўных званоў. Другая версія даказвае, што царкву знішчыў пажар.

Як было сапраўды, ніхто не можа сказаць. Можна толькі верыць, што ў гэтым месцы ёсць напэўна крыху зачараванасці, магічнасці.

**Барбара Казімерук,**
**вуч. I „е" кл. белліцэя ў Гайнаўцы**

# Галерэя дашкольніка



Наведвальнікі Гайнаўскага дома культуры маюць магчымасць паглядзець выстаўку прац дашкольнікаў, якая адкрылася там 13 сакавіка г.г.

У ГДК паказаны больш чым 150 прац дзяцей з пяці самаўрадавых дзіцячых садкоў Гайнаўкі. Спачатку конкурсы адбываліся ў паасобных прадшколлях і толькі найлепшыя працы мастакоў ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў трапілі на выстаўку. Тэмы прац наогул звязаны з порамі года, у час якіх прадшколлі працуюць поўным ходам. Найчасцей можна ўбачыць восень, зіму і вясну, дзеці паказваюць снежную бабу, кветкі ці прыроду. Дашкольнікі малявалі таксама і здарэнні з казак і фільмаў, партрэты сваіх блізкіх або нацюрморты. Наймалодшыя малявалі фарбамі, рысавалі каляровымі алоўкамі, рабілі таксама і „выдзіранкі", наклейвалі розныя тканіны або вату, аб'ядноўвалі некалькі тэхнік.

— Арганізуючы выстаўку, хацелі мы паказаць разнароднасць прац нашых наймалодшых мастакоў. Дашкольнікі даслалі нам вельмі многа прац, на падставе якіх можна ўжо вылучыць таленавітых дзетак, якіх будзем запрашаць да працы ў мастацкім гуртку. Ёсць ужо ахвотныя бацькі, якія хочуць пасылаць малечаў да нас на мастацкія заняткі, — кажа інструктар Зінаіда Якуць. — Хочам мы, каб наведвальнікі выстаўкі самі ацэньвалі працы. Улічваем таксама ацэнку наймалодшых аўтараў прац, якіх многа прыйшло з бацькамі ўжо на адкрыццё выстаўкі. Прадстаўнікі кожнага прадшколля атрымалі тады дыпломы за ўдзел у „галерэі дашкольніка", а дзяцей запрасілі мы на пачастунак і пастаноўку ў выкананні нашых тэатральных гурткоў. Зараз запрашаем наведваць нас усіх дашкольнікаў разам з бацькамі і ўсіх цікавых дзіцячага мастацтва, бо ёсць сапраўды цудоўныя і непаўторныя працы.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# „Усходняя сцяна" над морам

5 сакавіка ў Ратушы ў Гданьску адкрылася фатаграфічная выстаўка „Час цішыні". Прэзентуюцца на ёй людзі і краявіды ўсходняй Беласточчыны, якіх фатаграфавалі Марэк Далецкі (Беласток), Яўген Казюля (Мінск, Беларусь) і Зыгвард Шміц (Нямеччына). Раней выстаўка экспанавалася ў Беластоку, таксама ў Ратушы. У Гданьску арганізатарамі выстаўкі выступілі Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску Міхал Аляксейчык, Усходнееўрапейскі дэмакратычны цэнтр і Музей гісторыі горада Гданьска. На адкрыццё з-за хваробы не змог даехаць Яўген Казюля. Як сказаў Марэк Далецкі, ён „фатаграфуе тое, чаго за некалькі гадоў не будзе, каб яго сын ведаў як было". Чорна-белая фатаграфія робіць уражанне двухколернай „Усходняй Сцяны". Працы без загалоўкаў прымушаюць гледача задумацца і скласці ўласную інтэрпрэтацыю. Аднак баюся, што не ўсе наведвальнікі зразумеюць ідэю здымкаў з „бабкамі", якія таямніча „загаварваюць". Усё ж такі неабходнае паясненне, каб не ўспрымаць іх як чыстае мастацтва. Да выстаўкі падрыхтаваны каталог з уступам беластоцкага літаратара Яна Леанчука. Прыгожа напісанае эсэ звяртае ўвагу на багацце, асабліва духовае, усходняй Беласточчыны. Адклікаецца да ўсіх тых, якія дзеля лепшага жыцця пакінулі краіну „ўстыду", да іх дзяцей, унукаў, якія магчыма дзякуючы гэтым здымкам пачнуць шукаць свае карані. Калі ўсходняя Беласточчына сваёй прыродай і людзьмі захапіла мастакоў-фатографаў, магчыма, што праз іх працы верне да сябе сваіх „сыноў марнатраўных", якія дзеля лепшых умоў зракліся сваёй бацькаўшчыны. А такіх і тут над морам шмат. Няхай тады выстаўка напамінае родныя краявіды, творы бацькоў і дзядоў прывязаных да сваёй хаты, поля.

Выстава з Гданьска паедзе ў Мінск (чэрвень), Варшаву (верасень), Жэшаў (лістапад) і Нямеччыну — ужо ў 2000 годзе.

**Лена Глагоўская**



PS. Шкада, што ў каталозе выставы, над якой патранат узялі Міністэрства культуры Беларусі і генеральныя консулы з Беластока і Гданьска, не знайшлося месца на тэкст на беларускай мове, калі ёсць на польскай і нямецкай. І чаму ў сваім прыгожым эсэ Ян Леанчук ні слоўцам не ўспамінае пра праваслаўных беларусаў, якія жывуць на „Усходняй Сцяне". Думаю, прыгажосць не толькі ў словах, але і ў нацыянальнай, рэлігійнай і культурнай разнароднасці **Л. Г.**

# Паталагічныя з'явы ў нашым жыцці

У памяшканні Брацтва праваслаўнай моладзі пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы 11 сакавіка адбылася сустрэча педагога Ірыны Сніткоўскай з моладдзю і дарослымі, прысвечаная паталогіям.

Дакладчыца паказвала прысутным прыклады, калі звычайныя людзі станавіліся залежнымі ад розных паталагічных з'яў. Расказвала пра вучняў, якія праз звычайную цікаўнасць сталі наркаманамі або трапілі ў секты, гаварыла аб прычынах алкагалізму ў сем'ях, раіла, як пазбегнуць кантакту з наркотыкамі.

— Гэта наша такая першая сустрэча, ініцыятарам якой была наша моладзь. Думаем правесці цыкл такіх спатканняў, прысвечаных прафілактыцы розных паталогій, — гаварыў айцец Славамір Хвойка, апякун Брацтва. — Рашыліся мы на гэтыя сустрэчы па той прычыне, што ў нашых школах моладзь штораз часцей мае кантакт з наркотыкамі. Аднак спатканняў не абмяжоўваем толькі да моладзі, запрашаем таксама і старэйшых, хворых алкагалізмам ці наркаманіяй. Цешыць тое, што на першую сустрэчу прыйшло многа моладзі. Маем надзею, што і наступныя спатканні будуць мнагалюднымі. Пра тэрміны спатканняў і тэмы дакладаў можна даведацца ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. **(ам-з)**

# Маё сэрца па ўсходняй старане

**Інтэрв'ю з Тамашом САЕВІЧАМ, сябрам Анархістычнай федэрацыі ў Беластоку.**

**Ганна Кандрацюк:** ***Як распазнаць на вуліцы анархіста?***

**Тамаш Саевіч:** Генеральна, няма чагось такога як выгляд анархіста. Кожны выглядае як хоча. Анархізм ёсць у галаве, а не ў знешнім выглядзе.

***— Табе 19 гадоў. Як даўно ты ў радах анархістаў?***

— З 12-ці гадоў, найперш інтуітыўна адчуваў сувязі з анархізмам, пазней пачаў шукаць на гэтую тэму ведаў, зараз з поўнай адказнасцю магу сказаць, што я — анархіст.

***— З кім у Беластоку змагаюцца анархісты?***

— У Беластоку, як і ўва ўсім свеце, дарэчы, з кожным, хто хоча ў нейкі спосаб кантраляваць наша жыццё: з урадам, палітычнымі партыямі, фашыстамі.

***— Менавіта, ці фашыстоўскі рух у Беластоку з'яўляецца праблемай?***

— Гэта сапраўды сур'ёзная праблема Беластока. Ёсць дзвесце-трыста асоб, якія адкрыта прызнаюцца ў сімпатыі да фашызму. Вялікі працэнт такіх асоб становяць фанаты футбольнага клуба „Ягелонія", скінгеды, члены Нацыянальнага адраджэння Польшчы, хаця апошнія не з'яўляюцца пагрозай з увагі на мізэрную колькасць членаў.

***— А колькі вас, анархістаў?***

— Цяжка сказаць канкрэтна, хаця думаю пра дзвесце, можа — трыста асоб. На дэманстрацыі, пікеты збіраецца ад дзесяці да двухсот пяцідзесяці чалавек. Самае вялікае згуртаванне ў Беластоку, крыху анархістаў у Бельску-Падляшскім, Моньках, Элку.

***— Хто яны?***

— Ад вучняў пачатковых школ па статных бацькоў сем'яў. Ёсць студэнты, аднак у асноўным гэта ліцэісты.

***— Як на практыцы выглядае ваша змаганне?***

— Перш за ўсё гэта ахова мітынгаў, пікетаў, дэманстрацый.

***— Ці прымяняеце сілавое змаганне?***

— Бывае, бывае... Бойкі найчасцей успыхваюць з нацыстамі, якія атакуюць мітынгі. Не выглядае гэта найцікавей. У рух ідуць бейсбольныя палкі, каменне, апошнім часам вельмі папулярныя „кактэйлі Молатава".

***— Анархісты ўдзельнічалі ў мітынгах ля Пасольства Рэспублікі Беларусь у Беластоку.***

— Падтрымліваем усіх, хто супраць рэжыму Лукашэнкі. Апошнім часам мы завязалі супрацоўніцтва з БАСам.

***— Што думаеш пра ўрад Лукашэнкі?***

— Не! Гэта ўвогуле трагедыя! Гэты асобень павінен быць закрыты ў шпіталі. Гэта ўрад, які прадстаўляе тыповы таталітарызм.

***— Якія падтрымоўваеце кантакты ў свеце?***

— Маем сувязі з Берлінам.

***— А на Усходзе?***

— Найлепш складаюцца кантакты з Гроднам, ведаем людзей сабраных вакол гурту „Кальян". Там даволі цяжка быць анархістам, увесь час праследуе міліцыя.

***— Ці ў Беластоку паліцыя вас праследуе?***

— Жорстка абыходзіцца з намі на мітынгах, асабліва, калі яны нелегальныя. Часта гэта канчаецца для нас арыштам.

***— Ці цябе затрымала паліцыя?***

— Два разы пабываў на камісарыяце. Раз пасля мітынгу з нагоды 11 Лістапада, калі дамагаўся сваіх правоў.

***— На ілбе ў цябе яшчэ незагоеная рана. Гэта за ідэі?***

— Нядаўна на вуліцы напаў на мяне п'яны жулік.

***— Ці вечарам можаш без пагрозы шпацыраваць па вуліцах Беластока?***

— Магу стацца ахвярай скінаў ці фашыстаў як кожны малады чалавек, які мае нетыповы „фрыз" або выгляд.

***— Якое месца жанчын у вашых радах?***

— У нас — роўнасць. Сярод анархістаў многа дзяўчат. Разам ладзім *імпрэзы*, разам змагаемся, дзяўчаты таксама б'юцца. У час апошняга „Сільвестра", калі мы сутыкнуліся з фашыстамі, мяне абараніла дзяўчына.

***— Ты вучань I Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку. Што найбольш хвалюе ў школе маладога чалавека з анархізмам у галаве?***

— Ёсць канфлікты з настаўнікамі. Але ў канцы такія канфлікты дапамагаюць, бо многія справы можна адваяваць.

***— Твае адносіны да школьных самаўрадаў?***

# З кім ты маеш дачыненне

Надумала Іраіда Дымша ўпусціць у сваю кватэру кагосьці, каб папільнаваў „маёнтку", а сама будзе жыць у хворай маці ў падбеластоцкім пасёлку. Вядома, магла матку забраць у Беласток, але той лекары параілі пабыць на прыродзе. Адзін пакой у сваёй двухпакаёўцы Іраіда пакінула сабе, але дазволіла будучаму кватаранту ім карыстацца — час ад часу пасядзець з сябрамі, уключыць тэлевізар. Аплату налічвала толькі за адзін пакой, паколькі зрэдчас мела прывозіць маці ў амбулаторыю, а і надарыцца ж і самой пераначаваць. Кватарант меў плаціць 120 злотых, за тэлефон столькі, колькі назвоніць (выдрукі прысыляліся штомесяц), за газ і святло — колькі скарыстае.

Прыняць Роберта намовіла сястра Іраіды Ліза: сына супрацоўніцы. Спакойны, разважлівы хлопец, бацькі нахваліцца не могуць. Але калі што не так — званіце адразу бацькам, а і сама заязджайце, пабачыць, што робіцца. Вядома — хлопец малады, першы раз вырваўся з-пад бацькоўскіх крылаў. І каб калег там замнога не было, пацішу намякнула Ліда Старыкова, нашто маладому галаву тлуміць глупствамі, калі вучыцца трэба!

Грошы Робертавы бацькі плацілі ў час, падобна як і за педагагічны сынаў каледж. Дзеці каштуюць! Іраіда сама аплачвала за хату, амаль палову сваімі. Усё ж, галоўнае — дома нехта ёсць. Свой чалавек. Не каб зарабіць жа ўзяла кватаранта.

І людзі былі дома. Калі Іраіда часцей пачала прыязджаць, заўважыла пастаянную прысутнасць большай колькасці маладых асоб. Вучыліся, пілі гарбату, смажылі бульбу. Адчувалі сябе як дома, што не перашкаджала гаспадыні. Абы суседзі не наракалі! Праўда, сядзелі за поўнач, як заўважыла, сама начаваўшы, выходзілі, потым, здаецца, цішком вярталіся. Ну, што ж — моладзь! — усміхалася нестарая гаспадыня. Пра Робертавых сяброў бацькам толькі ўспомніла, зазначыўшы, што паводзяць сябе прыстойна. Чула адным вухам размову студэнтаў: „Слухай, Роберт, а той другі пакой то ты наймі дзвюм каляжанкам, то заплацяць і прыбяруць яшчэ!" Гэтая прапанова зусім яе рассмяшыла, бо сума, якую брала за кватэру, была нават не сімвалічная. Нават ейная маці на яе за гэта злавалася, бо хто ж заплаціць за рамонт? А вось дзве канапы ўжо паламаныя, выкручаны ваконныя завесы, быццам карысталіся імі людзі, якія не ўмеюць адчыніць фінскае пахілае акно! І мэбля такая запэцканая — можна ж тую смажаную бульбу больш культурна есці, так ці не? Роберт спачатку трымаў у хаце чысціню, пасля, калі падсяліўся да яго сябар, пачалі азірацца адзін на аднаго, і ў кухні навалай наваліліся тараканы.

Раз-пораз прасіў Роберт пачакаць аплату, хоць грошы бацькі давалі яму на пачатку месяца, каб заплаціў за кватэру. „Не здаў я, ведаеце, экзамен, а ў нас паўторныя падыходы платныя па 100 злотых ад асобы. Нічога не кажыце маці. Я праз тыдзень пад'еду на гароднінны базар, пагружу тавар, дык грошы вам вярну. Або маму папрашу, падашле. Толькі ёй не кажыце. Вы ж мяне ведаеце, усё добра будзе". Аддаў раз-другі. „Мама грошай не мела, трэба ў банку ўзяць. Падашле..." Але не прыслала. А тут прыйшлі новыя рахункі за тэлефон.

Якраз была нядзеля. А тэрмін аплат — панядзелак. Пазваніла Іраіда ў Гайнаўку. „А колькі наш сын вінаваты?" Столькі і столькі — два месяцы за кватэру, і за тэлефоны. І за электрычнасць...— „Ой, хіба хлусіце! Я ж яму дала на ўсё?! Ну, разарву яго, дурня, на часці!" — „Не крычыце на яго, меў праблемы. Ён вам усё раскажа. У яго цяпер усё добра... Гэта добры хлопец..."

Расплакалася тады маці, расказваў пасля Роберт. Так свяціць вачыма перад людзьмі! Такі несумленны сын, а бацькі! — маці ўрадніца, бацька педагог! У дзвюх гмінах іх ведаюць, у павеце! Нашто ж было званіць, трывожыць маму?..

Прывёз грошы Роберт, з даўгамі справіўся. „Чаму вы мне не сказалі! Я ж заплаціў бы! У мяне клопат такі быў..."

Быў яшчэ і іншы, звязаны з дзяўчынай. Бо яны, дзяўчаты, каштуюць шмат, асабліва калі ты, апроч грошай ці „разрыўкі", не маеш ім нічога іншага запрапанаваць.

Іраіда чакала была два месяцы звароту гадавых падаткаў. Немалыя грошы, як для яе — 600 злотых. Аж узлавалася на трэцім месяцы на той фіскус! — разлічылася ў канцы лютага, а тут грошай ні дыху! Пасля „хаджэння" па муках па поштах ды іншых установах даведалася, што свае грошы... яна ўзяла ўжо 5 мая. Выплаціў ёй іх пісьманосец у яе ўласнай хаце, што пацверджана подпісам. Чэк высланы ўжо ў Быдгашч, у цэнтральны паштовы архіў!

Пабегла Іраіда дахаты. „Роберт, ну вось бяда! Ці не падшылася пад мяне якая твая сяброўка?! Ты ж гэтага зрабіць не мог, я так табе давяраю!" Роберт пачырванеў. „Я бачыла ў цябе столькі паненак, можа якая ўзяла грошы! Лістаноша кажа, што нейкаму хлопцу грошы аддаў, але ж хіба немагчыма, чаму ён не прасіў у яго пашпарт?! Маёй сястры калісьці не хацеў выдаць маіх грошай у маёй хаце, хоць аднолькавае прозвішча маем..."

Давай гаспадыня ў прысутнасці кватаранта і яго калегі абмяркоўваць розныя варыянты „ўцечкі" грошай, і так дзень у дзень. Чакалі весткі з Быдгашчы — Іраіда Дымша склала рэкламацыю на Галоўнай пошце. Праз тыдзень прыйшло пацвярджэнне — на чэку распісаўся Роберт Старык. „Ой, толькі не кажыце маім бацькам! Я зараблю грошы, аддам. Мне так сорамна было, што не змог адразу прызнацца... Я сам маме скажу..."

Усё ж прагаварылася Іраіда перад сваёй маткай. А тая пазваніла другой дачцэ на працу. А тая — да Ліды Старыковай: так і так.

На другі дзень прыехаў Януш Старык з грашыма. Строгім бельферскім голасам выціснуў: „Калі такое здарылася, не можа быць даверу. Таму і забіраем нашага сына з гэтае хаты. Тут, вядома, Роберт жыць не можа".

— Не хочам мець дачыненне да тваее сястры! — на працы суха сказала Лізе Дымшы Ліда Старык, яе начальніца. — Добра даў ёй мой Янка! Належалася! Страцілі мы да яе давер!

— Ведаеце, гэта не мая хата, гэта не мае грошы. Я не хачу з вамі пра гэта размаўляць! — затхнулася ад неспадзеўкі Ліза. — Але гэта крыху дзіўна, тое, што вы кажаце.

— З тваёй сястрой не хочам і знацца!

— Ну, гэта ўжо сапраўдная шызафрэнія! — узлавалася дзяўчына.

— Не жадаю такіх выказванняў з твайго боку. Ты тут залежная, памятай, ад мяне!

Але не кончыліся „рахункі" Іраіды Дымшы з сумленнай і вядомай у дзвюх гмінах сям'ёй. Рашыла яна адабраць яшчэ грошы, якія быў вінаваты Роберт Старык за тэлефанічныя размовы. Усяго 120 злотых. Пазваніла яму, абяцаў прывезці. Прайшоў месяц-другі, звоніць Іраіда яшчэ раз у Гайнаўку.

— Так? Аж столькі? — быццам першы раз чуўшы, пачаў дапытвацца даўжнік.

— Ну, мы ж дагаварыліся. Трымаю вось перад вачыма доўгі на тры метры выдрук з Тэлефонаў.

— Ну, добра.

Праз пару хвілін у хаце Іраіды празвінеў тэлефон.

— Хопіць, баба, да нас чапляцца! — з другога боку дроту верашчаў Януш Старык. — Раз ужо нас „нацягнула". Пэўна, і ад лістаношы грошы тады выдзерла, ведаем такіх! Я плаціць за ніякія чужыя тэлефоны не буду!

— Гэта не вы размаўлялі, а ваш дваццацітрохгадовы сын. І ён мае заплаціць. Вы, як бацька і педагог, павінны прамовіць яму да розуму.

— Я табе зараз прамоўлю! Ніхто табе ніякіх грошай плаціць не стане! Хопіць дурня клеіць! Не маю ахвоты больш з вамі размаўляць! Канец! І каб больш не было ў нашу хату ніякіх званкоў ад вас! Баста!

— Не, гэта не канец. Шкадую, што адразу не паведаміла паліцыю пра злачынства. Бачу, што за сямейка! Гадуйце злодзея і ашуканца. Здаецца, відна, у каго ён удаўся. Будзем размаўляць інача. Бачу, што вы ўжо простую мову перасталі разумець.

— Вы нас тут не страшыце! Не ведаеце, здаецца, з кім размаўляеце?!

— Ведаем, і распавесці можам усім, хто ёсць хто і кім хоча быць. А рахункі прыйдзецца ўсе заплаціць...

— Ці не разумееш, што я не хачу мець з табою ніякага дачынення?!

Вось як прыемна і сэнсоўна размаўляецца з „нашымі людзьмі", адукаванымі, на пасадах.

Роберту месяц пасля гэтай „паштовай" прыгоды тата з мамай падаравалі былі аўто. Зараз ён яго памяняў на заходняе. А вучыцца ён на педагога. Будзе займацца нашымі дзецьмі. Пэўна, у нашым тут старонні, бо бацькі будуюць яму вілу ў Гайнаўскім павеце. Пэўна таму так трымаюцца за кашалёк. Добра было б, каб і за язык патрымаліся, і ў слоўнік заглянулі, што за слова такое — „сумленне".

**Лукаш Баравіцкі**

*(прозвішчы герояў зменены)*

— Не падтрымоўваю такой структуры. На практыцы зводзіцца яна да афармлення інтарэсаў дырэкцыі. У школе, дарэчы, лёгка застрашыць вучня, напрыклад, *матурай*.

***— Ці сярод анархістаў ёсць беларусы?***

— У Беластоку — так. Я сам лічу сябе беларусам.

***— Адкуль твае карані?***

— Бацька родам з Навасад, што непадалёк Гайнаўкі, маці з Сабятына ля Мілейчыч. На жаль, не валодаю беларускай мовай, хаця яе разумею.

***— Чаму маладыя людзі ў ліцэі не хочуць вучыцца беларускай мове?***

— Гэта не так. Найчасцей малады чалавек не ведае, што ёсць такая магчымасць. Другая справа, што ўсходнія мовы асацыююцца з камунізмам. Усё, што „рускае" аўтаматычна адкідаецца, ёсць такі прынцып: кожны нармальны чалавек вучыцца англійскай ці нямецкай мовам. Я асабіста вельмі хацеў бы пазнаць культуру Беларусі. Апошнім часам прачытаў „Дамавікамерон" А. Глёбуса, кніжка мне вельмі спадабалася. Дарэчы, сярод перакладчыкаў знайшоў свайго цёзку, Тамаша Саевіча.

***— Назаві сваіх любімых аўтараў.***

— Люблю Марка Гласку, Альберта Камю, асабліва яго „Чуму", цыберпанкавую літаратуру Вільяма Гібсана, Эдгара Алана По.

***— А музыка?***

— Я *панк*, на гэтым выхоўваўся ды такую люблю музыку. Апошнім часам цікавяць мяне беларускія і ўкраінскія матывы ў музыцы. Люблю згаданы ўжо „Кальян" з Гродна.

***— Гістарычныя постаці?***

— Анархісты Крапоткін, Бакунін, Банавентура Дуруці.

***— Ты ў чацвёртым класе ліцэя. Што далей?***

— Думаю пра гісторыю ў Беластоку.

***— Чаму ў Беластоку?***

— Хаця б з увагі на тое, што маю тут кантакт з беларускай культурай. У прыватнасці, маё сэрца па ўсходняй старане.

***— Што хацеў бы ты памяняць у Беластоку?***

— Каб моладзь, якая выглядае „альтэрнатыўна", без перашкод хадзіла па вуліцах горада. Каб Беласток перастаў быць бастыёнам каталіцкага фундаменталізму. Гэта глыбока мяне хвалюе.

***— Скажы нешта пра газету анархістаў.***

— Завецца яна „Czarny Blok", яе папулярызуем найчасцей у школах, на мерапрыемствах, мітынгах. Апрача таго друкуем лістоўкі.

***— Чаму анархісты ангажуюцца ў самаўрадавыя выбары?***



— Ангажуюцца толькі тады, калі ведаюць канкрэтнага чалавека. Але ніякі анархіст не будзе выбіраць паслоў, сенатараў ці прэзідэнта. Бо, гэта ўжо такі ўзровень улады, які разбэшчвае найбольш *файнага* чалавека.

***— Што думаеш пра ўваход Польшчы ў НАТО?***

— Маю да гэтага негатыўныя адносіны. Гэта замена аднаго вялікага брата на другога. Польшча не павінна ангажавацца ў брудныя мілітарныя справы, у час калі праводзяцца рэформы асветы, аховы здароўя. Тым больш, што Расія цяпер не з'яўляецца вялікай імперыяй і не стварае пагрозы.

***— Якую бачыш альтэрнатыву?***

— Нейтральнасць.

***— Ды якія ты дапусціў бы структуры?***

— Малыя аўтаномныя рэгіёны.

***— Гэта ж прапанова Еўрапейскага Саюза?***

— Не. Еўрапейскі Саюз — гэта вялікая карпарацыя.

***— Гаворыш як нацыяналіст.***

— Тое, што ў пэўных справах наша філасофія падобная, нічога дрэннага.

***— Што будзеш рабіць, калі на Беласточчыне паявяцца фарміраванні НАТО?***

— Непатрэбныя яны тут, буду пратэставаць датуль, пакуль яны адсюль не выбяруцца!

***— Ці анархіст гатовы памерці за свае перакананні?***

— Думаю, што так, маю надзею.

***— Дзякую за размову і жадаю поспехаў на матуры.***

**Гутарыла Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

Якія мы людзі

# Грошы

У гэтай хаце грошай не лічылі. Калі пачалі рабіць „бізнес”, замантавалі ў шафе сейф, які моцна прыкруцілі да сцяны, і кідалі туды свой штодзённы заробак. І муж, і жонка прыходзілі дахаты настолькі стомленыя, што, падсілкаваўшыся, адразу кідаліся ў пасцель. Грошы, дзеля парадку, лічылі толькі ў нядзелю.

Людзі зайздросцілі ім. А спачатку дзівіліся: дурныя яны, ці што, універсітэты паканчалі, а прышываннем гузікаў займаюцца. Ну, і што? — А дзе ж бы яны так хутка пабудавалі вілу, купілі самаход ды аддалі дзяцей у прыватную школу, га? Нават ужо і фабрыку швейную, хаця і невялічкую, пабудавалі. Нажыліся на рускіх, ой, нажыліся. Так было, што колькі не давай прадукцыі — усё было мала. І людзей на работу ўсё больш і больш прымалі. Думалі, канца грашыскам не будзе... Во каб гэтак цяпер... Цяпер працу шукаць трэба.

Тады, калі яшчэ грошай у хаце не лічылі, дзеці пранюхалі, дзе ляжыць ключ ад сейфа. Вядома, дзеці, яны ўсё бачаць. Падгледзелі неяк, хаця бацькі старанна хавалі ключ. Што боскае — тое Богу.

Аддаўшы сваіх дваіх дзяцей — дачку і сына — у прыватную школу, бацькі адчувалі сябе так, быццам бы знялі са сваіх плячэй абавязак іх выхавання. Заплацілі ж! Няхай цяпер настаўнікі думаюць. Іх гэта справа!

А дзеці раслі самапасам. Ды і бацькоўскі аўтарытэт у іх вачах не толькі не рос, а змалеў зусім. Толькі ж у нядзелю ўсе яны фактычна маглі быць разам. А ці ж было калі размаўляць пра дзіцячыя справы, заглядаць у сшыткі ці правяраць веды...

Калі малая Паўлінка была ў чацвёртым класе, пачала прыносіць у школу грошы. Вымала з кішэні вялікія банкноты, хвалілася імі, маўляў, во, якія яны багатыя. Часамі яна памахвала імі перад носам сябровак і зноў хавала ў кішэню, а часамі бегла ў школьны буфет і купляла ўсім, хто захапляўся яе багаццем, нешта салодкае.

Так паўтаралася вельмі часта. А пасля Паўлінка пачала звальняцца ў настаўніцы быццам бы ў туалет. Сама тым часам бегла ў суседні супермаркет і рабіла там большыя пакупкі. Тады прыносіла цэлы пакет модных смакавітасцей: розныя чыпсы, батончыкі, жвачку. Калі ў дзяўчынкі быў добры настрой, яна дэмакратычна дзяліла ўсё, што прынесла, паміж усімі дзецьмі, разносячы смакоцці па лаўках. Дзеці як дзеці, яны частаваліся.

Некаторыя пачалі нават рабіць заказы: гэта мне прынясі, а гэтага не прынось. Іншым гэта не падабалася, і яны падсмейваліся з тых „заказчыкаў”. Замест быць Паўлінцы ўдзячнымі, пачалі ад яе адварочвацца.

Тады малая пайшла на хітрасць. Перад школай бегла ў таварны дом і купляла там цэлую кучу розных зайчыкаў, коцікаў, сабачак і іншых цацак. У школе іх раздавала, прыгаворваючы: „Ты мая найлепшая сяброўка, я цябе люблю!”

Дзеці падарункі найчасцей прымалі, бо і як жа было не ўзяць, калі даваліся яны з чыстага сэрца. Праўда, было ім крыху няёмка, і некаторыя стараліся нечым аддзякаваць Паўлінцы, і тады дзяўчынка таксама цешылася, бо вельмі хацела, каб яе палюбілі сяброўкі.

А нават і грошы раздаваць Паўлінка ўмела! Няхай толькі камусьці не хапіла — яна вымала грошы з кішэні і пазычала, аддаваць не загадваючы. А вядома, як цяжка наогул пазычыць грош у сябрука. Мае, а не дасць!

І так дзеці аблічылі, што ў тыдзень Паўлінчыны „кішэнныя” маглі быць большыя нават за тры мільёны (вядома, старых польскіх злотых. Гэтулькі зарабляў не адзін з бацькоў вучачыхся з Паўлінкай дзетак, хаця, праўду кажучы, у гэтай школе „на беднага не трапіла”. Дзяцей агортвала зайздрасць. Куды ім там было да Паўлінкі! На цэлы месяц многім дзеткам бацькі давалі адну дзесятую таго.

Паўлінка ж па сваёй наіўнасці была пераканана, што за гэтыя падарункі прыдбае сабе добразычлівых сяброў і сяброўак. Гэтага ёй хацелася найбольш, больш нават, чым заімпанаваць сваім багаццем. А што тое багацце! Адчыняй сейф і бяры колькі хочаш. Брала яна, браў і крыху старэйшы брат. Ці ён рабіў так, як і яна, дзяўчынка не ведала, але ў яе душа была нараспашку.

Такое „раздаванне” ў Паўлінчыным класе працягвалася больш года. Пачала яна прыносіць падарункі і настаўнікам. То купіць камусьці дарагую бялізну, то парфумы за пару мільёнаў. Дзяўчынка ад малога выпрацоўвала ў сабе добры густ. Настаўнікі, якіх „любіла” Паўлінка, не маглі не прыняць гэтага пад увагу, выстаўляючы ацэнкі. Зрэшты, яны былі ўпэўнены, што гэта прысылаюць бацькі Паўлінкі, і нават часамі прасілі, каб малая падзякавала ім.

Набліжаўся дзень нараджэння Паўлінкі. Дзяўчынка хадзіла па класе з блакноцікам, у які ўпісвала імёны дзяўчынак, якіх хацела б запрасіць да сябе на ўрачыстасць, а побач з імёнамі яна, быццам перад японскім вяселлем, адзначала, які падарунак хоча атрымаць ад той ці іншай дзяўчынкі, і паведамляла кожнай з іх, што гэта мае быць. Адны глядзелі на яе з недаўменнем, іншыя проста пастуквалі сябе па ілбе.

Маці падрыхтавала пачастунак для гасцей Паўлінкі ў нядзелю, бо тады мела час, хаця дзень нараджэння дачушкі мінуў ужо ў чацвер. На стале стаяў торт са свечкамі, прыгожыя талерачкі і шкляначкі. Чакалі гадзіну, другую. Паўлінка штораз выбягала на двор, выглядала сяброўак. Запрасіла ж яна іх восем асоб. Няўжо ўсе такія спазняюцца?.. Праз тры гадзіны маці Паўлінкі запаліла на торце свечкі. Калі Паўлінка здзьмухнула іх, бацька, маці і яна з братам пачаставаліся тортам і запілі „фантай”. Любіла Паўлінка „фанту”, але яшчэ больш хацела б быць у гэты момант з сяброўкамі.

На наступны дзень маці знайшла час, каб зайсці ў школу да Паўлінчынай выхавачкі. Нешта занепакоіла яе. І мела рацыю.

Настаўніца сказала, што ўжо хацела яе клікаць, і з прэтэнзіяй: чаму даюць дзіцяці столькі грошай... **Ада Чачуга**

Адгалоскі

## Па мінулым сумуюць

Адзін мужык узяў дзяржаўную пазыку, але не меў ён розуму, бо калі цешча сказала яму: „Дай мне грошы” — не адмовіў. Таксама і жонцы. Гаспадар з яго быў дрэнны. Прыйшла пара аддаваць пазыку і ён павесіўся. Пэўна, цяпер ягоная жонка кажа так: „Усяму вінаватая... дзяржава, бо калі б не давала пазыку, я б не стала ўдавой”.

У. Сідарук („Ніва” н-р 9/99) павінен сумаваць яшчэ больш, бо з яго такі добры агітатар, што за Сталіна ў Расіі далі б яму ордэн Леніна!

З адзінкавых выпадкаў робіць ён усеагульныя высновы. У Варшаве я не бачыў ніводнага надпісу „Komuno wróć!”, хаця былі намаляваны на сценах шыбеніцы са свастыкай або з зоркай Давіда.

З бязглуздага жарту „Tak jak giną wilki, ginie nasza wolność” робіць ён лозунг дня. А тут якраз у Польшчы на ўсходняй сцяне і ў Бяшчадах гойсае 1 200 ваўкоў і сяляне жадаюць іх адстрэлу, бо яны безупынна рэжуць статкі авечак. А свабоды ў нашай краіне такой вялікай як цяпер не было ад 1939 года, калі нас „вызвалілі” саветы.

Сяляне бунтуюцца ў Бельгіі, Іспаніі, Францыі, Партугаліі і Англіі, бо такая эпоха прыйшла. Між іншым таму, што да вайны больш-шасць людзей жыла з сельскай гаспадаркі, а цяперашні ідэал — 5% насельніцтва занятага ў земляробстве, а гэта азначае ламанне да фундаментаў адносін на сяле, якія існавалі дасюль і да якіх усе прызвычаіліся. А — як вядома — прывычка гэта другая натура.

Герку помнік ніхто не паставіць, бо мудрыя ўмеюць лічыць, а малапісьменныя — як правіла — скупенды. Кожны павінен ведаць, што радасць ад прапівання пазычаных грошай трывае не вечна, бо трэба аддаваць.

Бюракратыя як гідра заўсёды падымае галаву. На гэта скардзяцца кітайцы, рускія, заходнія краіны — усе. Цяперашні ўрад „перагнуў кій”, бо на выбарах „Салідарнасць” не мае рашучае перавагі і цяпер хоча пасадзіць на столках найбольш „сваіх”. Гэта няпраўда, што пры камуне не было бюракраты. На Чаромсе сусвет клінам не зышоўся.

Па мінулым сумуюць і дзеля таго, што маладосць прайшла — той час, калі было лепшае здароўе і ніякіх абавязкаў. **(скм)**

# Папаўнялі „магілёўскую” вобласць

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Настала восень, усіх на акопы выганяюць, мяне таксама. Нас выгналі ў Тыльзіт, над самым Нёманам, там былі фабрыкі паперы. Пару дзён пакапалі і наляцелі рускія, скінулі лістоўкі, на якіх было напісана: „Русские девушки бомбили”. Адзін самалёт збілі, у забітага лётчыка знайшлі пісьмо ў Варонеж, да ўхажоркі: у дваццаць трэці палёт вылятаю — пісаў.

Растрапалі той горад, ніхто капаць не гоніць. Я на станцыю пайшоў, станцыя разрушана, нікога няма, толькі маладая касірша білеты прадае. Я спытаў яе, ці білет у Кёнігсберг можна купіць, а яна адказала:

— Bitte![1]

Вярнуўся я ў Кёнігсберг у нядзелю, а з суботы на нядзелю англічане і амерыканцы горад збамбілі. Горад гарэў, але вакзал не быў парушаны. 28 снежня 1944 года пад Кёнігсберг падышлі рускія і абкружылі горад. 6 красавіка 1945 года саветы зрабілі артпадгатоўку, сёмага рушылі, а восьмага ішлі ўжо вулічныя баі і ў той жа дзень захапілі нас рускія. Радасць, але нецікавая, бо ўсё допыты праводзілі, уначы будзілі. І ў штрафны батальён на перадавую кіравалі за тое, што ў немца працавалі; *до пролития крови*, а тады той штраф *сбрасывали*. Умундзіравалі нас, падвучылі страляць, але ўжо як абыходзіцца з гранатамі — не; толькі ў траншэях байцы паказалі. Загналі нас у акопы, а немцы з мінамётаў нашы акопы завальваюць; побач мяне ўсіх завaліла. Стаяла дрэннае надвор'е, рускія самалёты не маглі лятаць, немецкія караблі падышлі к берагу і зноў па нас; колькі там рускіх загінула!

Настала 18 красавіка. Даставілі нам кашу, сухары і па сто грамаў. І сказалі — як ракету, то з крыкам „ура” і са штыкамі, не страляючы, на немцаў бегчы. Пайшлі мы ў атаку... Што там рабілася! Немцы ў доўгіх шынялях уцякалі, а і мы падалі, бо па нас білі. І немцы цывільныя — бабы з дзецьмі — да нас лезлі, бо бачаць: так і так хана. Праз нейкі час нехта загадаў адступіць, бо перабілі нас — мала хто астаўся.

Наступае ноч, нікога няма, усё раскідана. Я ў сілах быў, астаўся і не ведаю што і як; пасля яшчэ восем такіх сабралася, але з мае часці нікога не бачу. Акапаліся мы, бо нічога невядома. А мне не цярпіцца, я крыху ўперад падышоў і чую — штось стогне; гэта рускі салдат. Вярнуўся я па байцоў, узялі мы раненага на палатку і нясем...

А немец з дальнабойных нас шчупае: пару снарадаў выстраліць і ў другое месца пераносіць агонь. І такі снарад, відаць, і нас папаў. Мяне пабіла пад носам, палец перабіла, гаварыць не магу. Што тады сталася — не помню. Ехалі фурамі і збіралі раненых. Пытаюць мяне:

— *На ногах*?

— *На ногах*.

— *Ступай за нами*!

Бо хто быў не *на ногах*, таго падвозілі. Трапіў я ў палявы шпіталь і там астаўся да канца вайны, паправіўся крыху. 8 мая перад поўначчу вайна закончылася. Далі нам па 300 грам водкі з бочак; радасць, цалуюцца, скачуць, гармонік... На другі дзень адправілі нас над мора ў *дом отдыха* на тры месяцы. Спярша там салдаты былі, а пасля адны толькі афіцэры.

Я астаўся працаваць на кухні. Аднойчы ўстаў я рана, іду ў кухню, а мне чорны кот перад нагамі перабег. Заходжу — дзверы адкрыты, абакралі кухню, паловы харчоў няма...

Забірае мяне маёр з контрразведкі на допыт і дапытвае, дзе харчы падзеліся:

— *Вы немцу работали, а свою кухню обокрали*!

Не біў мяне, але гэтыя словы вельмі забалелі. А праз дзве гадзіны зноў мяне паклікаў:

— *Вы не виноват, мы нашли вора! Нашли 28 булок хлеба, полтора барана мяса и сахар. Не сумел увезти, так в откос вывалил. Уже есть на него приговор: два года*.

Навесну 1946 года трапіў я ў *подсобное хозяйство* гаспадаром, бо тыя саветы з калгасаў гаспадарыць не ўмелі. Далі мне тры *лошади*, дзевяць кароў, дваіх салдат і адно сямейства ўкраінцаў, што ў немца працавалі. Засеялі авёс, яравую пшаніцу, бульбу пасадзілі, быдла на траву выпусцілі. Аднойчы мне трэба было ў шпіталь ехаць, раніцай коней выпусціў на пашу... Калі настала пара запрагаць — няма коней! Прыехаў чэкіст і да мяне, што я коней прапіў. Два тыдні я іх шукаў, вошы завяліся, ногі паадмульваў, а коней не знайшоў. Пасля адзін конь знайшоўся.

Гутарыць страх было; утраіх гаварыць нельга. Але тая ўкраінка расказала мне пра голад на Ўкраіне. Там Сталін загадаў у калгасы запісвацца, але ніхто ў калгасы не пайшоў. Тады прыехалі энкавэдзісты і сказалі: як не пойшоў у калгас працаваць — не будзеш *кушать*. І вычысцілі ўсе куткі. Людзі збожжа пад падлогу хавалі, свіней у ямы... Няма чаго есці, людзі з голаду ўміраюць... Сваіх дзяцей елі... А на базар пойдзеш — няма за што купіць нават людское мяса... Ніхто сілы не меў нават людзей хаваць; перад хатамі крыжыкі стаялі, там хавалі...

Пасля трапіў я ў Карэла-Фінскую Рэспубліку. Там хлеба амаль не было, толькі перлавая каша і ўсё рыба і рыба; і суп з рыбы. Аднойчы збіралі мы бульбу і ўзялі крыху сабе і варым на кастрах. Прыйшоў лейтэнант і ўсё раскідаў і знішчыў. Зімою вялікі холад быў: па 45-50 градусаў марозу. Хто слабы быў, таго туберкулёз хапаў. Пытаемся мы:

— *Почему солдаты не возвращаются*?

— *Да они другую часть пополняют... Могилевскую область*...

Два разы я пісаў у польскае пасольства ў Маскву, каб вярнуцца. У 1947 годзе была польска-жыдоўская рэпатрыяцыя і я ўе папаў. Дадому вярнуўся ў сакавіку 1947 года, на *польскі* Вялікдзень, а на нашу Вербніцу. А брат мой яшчэ пры немцах вярнуўся: прыехаў у водпуск і астаўся, назад не паехаў.

**Аляксандр Вярбіцкі**

[1] Калі ласка. (ням.)

# Рэфлексіі пра нашу годнасць

Цудоўна, на шасцёрку, напісаў спадар Анатоль Маўчун свой артыкул п.з. „Роздумы пра годнасць" („Ніва" н-р 9) і, думаю, ніхто не адважыцца яго аспрэчыць. Напэўна спадар Маўчун сам перажыў усе жахі бальшавізму: няпраўду, ману і пагарду да чалавека, і мо быў блізка бальшавіцкай кулі і ямы і толькі цудам выжыў; аб гэтым усім павінен ён напісаць кніжку і я першым яе куплю.

Так, гэта праўда, што „моцныя народы, як сабакі, кідаюцца ў абароне сваёй годнасці. Беларусы толькі пытаюць: «Навошта?» Святая праўда гучыць у гэтым сказе. І нядарам у час акупацыі ў нямецкай газеце быў змешчаны рысунак, на якім з разбітага савецкага танка паляк цягне ў лес зброю, а беларус бярэ гусеніцы і другое непатрэбнае ламачча, каб пасля з гэтага зрабіць у каваля плуг або сашнік для сябе. І гэта яшчэ паўбяды, бо ўся бяда заключаецца ў тым, што мы як сабакі грызёмся паміж сабою і гатовы адзін аднаго ўтапіць у лыжцы вады. О, каб мы, як сабакі, кідаліся ў абароне сваёй годнасці, дык мы былі б паўнацэнным народам і ўвесь свет лічыўся б з намі! Мо толькі пяць працэнтаў нас ведае словы: патрыятызм, годнасць, родная мова... А ў іншых патрыятызм ляжыць у страўніку, багацці, падхалімстве і сваім асабістым „я".

Нядаўна быў я сведкам асаблівай размовы: адна жанчына спытала аднаго селяніна:

— Ці гэта праўда, што твая жонка на пенсіі па інваліднасці?

— Так, праўда, — адказаў селянін, — многа разоў ляжала ў шпіталі і Бог, і людзі ведаюць аб гэтым.

— Так! Дастукалася гэтай пенсіі, — заключыла яна, не даваючы чалавеку і думаючы, што селянін справу „залатвіў" у лекараў, а жонка атрымоўвае „левую" пенсію.

Што можна аб гэтым сказаць? Проста: калі чалавек сам злодзей і нікчэмнік, яму здаецца, што ўсе такія, як і ён. Бо ў тае жанчыны ёсць у суседняй вёсцы дачка, маладая і здаровая як кабыла, але „дастукалася" ўжо пенсіі па інваліднасці; і атрымоўвае. І ўсе пра гэта ведаюць і маўчаць. І маці гэтай дачкі павінна маўчаць і ціха сядзець, як мыш пад венікам, а не чапаць нявінната чалавека; так як у прымаўцы: „Чыя б карова мычала, а твая б маўчала". Аднак такую натуру цяжка, а нават немагчыма перамяніць.

Такія мы людзі, хаця на шчасце ёсць добрыя і спагадлівыя, але іх вельмі мала, ды слава Богу і за гэта. Дыктатар, адзінка без нулёў, нічога не значыць, але, на бяду людзей, гэтыя нулі знаходзяцца. І ў нас, у Дубічах-Царкоўных, царыў такі дыктатар-адзінка, які да гэтай лічбы назбіраў некалькі нулёў са сваіх памагатых, якія як плакалі (і сёння плачуць), калі яго праганялі з трона.

Вельмі добра сказана спадаром Маўчуном пра колішні багаты ва ўсе багацці Савецкі Саюз, які „дагнаў быў і абагнаў" усё і ўсіх. А тут, калі рассыпаўся — адна галынь і бедната. Значыць бальшавікі ілгалі ў жывыя вочы і пакуль дзяржавы-сатэліты Масквы працавалі ва ўсю моц і дастаўлялі свае тавары, Саюз нерушыма яшчэ стаяў на гліняных стаўбах. А калі тыя дзяржавы адышлі, тады і Савецкі Саюз астаўся голы, як маці нарадзіла. Не дарма кажуць, што з нявольніка няма работніка. А ведаем жа, што ў Савецкім Саюзе ўсе былі палоннымі і парабкамі; і ведаем якасць іх работы: яна мізэрная і мо горшая чым у дзікуноў. Калі савецкіх людзей нібы вызвалілі ў 1991 годзе ад прыгону, дык яны, а пераважна калгасная маса, хочуць надалей служыць сваім панам і не думаюць браць на сваю спіну цяжкія абавязкі, бо лепш ім піць, гуляць, і не грэх што „голы, але вясёлы". І сапраўды, калі б СССР быў такі багаты, як трубіла ягоная прапаганда, дык не абанкруціўся б на вачах у такі кароткі час. І ў нас, у Польшчы, праводзяцца розныя рэформы, але поспехаў няма. А гэта таму, што на рэформы патрэбны капітал, а яго мы не маем. А не маем, бо выраслі ў бальшавіцкай рэчаіснасці.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Самаўрадавыя заробкі

Грамадскую думку бударажаць высокія заробкі самаўрадавых чыноўнікаў, радных, членаў наглядальных рад дзяржаўных суполак. Гэтыя настроі схілілі палітыкаў розных арыентацый заняцца празмерным скарачэннем дзяржаўнага бюджэту. Сенатары АВС і паслы СЛД перадалі маршалку Сейма праекты законаў, у якіх прапануецца вызначыць максімальную велічыню заробкаў работнікам і дзеячам самаўрадавай і бюджэтнай сферы. Паводле СЛД самаўрадавыя чыноўнікі не павінны зарабляць больш за прэзідэнта РП, г.зн. 11 354 зл. у месяц. АВС у сваю чаргу прапануе, каб аклады самаўрадаўцаў не перасягалі заробкаў ваяводы.

А колькі зарабляюць начальнікі мясцовай адміністрацыі ў нашым ваяводстве? Найменш, бо толькі 1 200 зл., атрымоўвае войт Мілейчыцкай гміны, але ён працуе ўсяго на паўстаўкі. Цэлая стаўка войта суседняй Нурэцкай гміны складае 2 500 зл. Пад тры тысячы за сваю працу атрымоўваюць яшчэ войты Вышкаўскай і Чыжоўскай гмін ды бурмістр Браньска. Месячны аклад пераважнай большасці войтаў вагаецца ў межах ад 3 да 4 тысяч, а бурмістры Сямятыч і Бельска-Падляшскага зарабляюць амаль 5 тысяч зл. Гэта ўжо і не так мала, калі параўнаць да сярэдняй зарплаты ў ваяводстве.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

Адгалоскі

# Прэзідэнтаў ацэніць гісторыя

Прачытаўшы адгалоску Юстына Пракаповіча з 11 н-ра „Нівы" пад загалоўкам „Каб Беларусі такія прэзідэнты!" вырашыў і я дакінуць свае пяць грошаў. Аўтар хваліць украінскіх прэзідэнтаў за тое, што забралі ад Расіі Крым, Севастопаль, падзялілі Чарнаморскі флот і г.д. Я сумняваюся, ці тое, што яны забралі, сапраўды ўкраінскае. На Чорным моры з туркамі, французамі ваявалі рускія адміралы, як напрыклад, Нахімаў, які ў 1853 годзе разграміў турэцкі флот. У 1855 годзе войска генерала Мураўёва ўзяло турэцкую крэпасць Карс. У тыя часы ніхто пра ўкраінцаў не гаварыў. Да сённяшняга дня стаіць помнік „Навеки вместе", бо так сказаў Багдан Хмяльніцкі. А тое, якую палітыку вядуць цяперашнія прэзідэнты Украіны, гэта іх справа і калісь гэта ацэніць гісторыя.

Лукашэнку выбраў народ і гэта справа беларусаў, але не наша і праўду піша М. Лук'янюк: занмнога нашы журналісты мяшаюцца ў справы беларускага прэзідэнта.

А можа Беларусі ці Украіне трэба такога прэзідэнта як наш, які не раячыся з народам завёў нас у НАТО? Ці праўда гэта, што 90 працэнтаў палякаў падтрымоўвае НАТО? Адкуль наш урад такі пэўны, калі не было ніякага рэферэндуму.

Беларусь хіліць да Масквы, бо бліжэй чым да Вашынгтона. І хіба за Варшаву, Вільню, Львоў амерыканцы ваяваць не будуць, а палякаў і іншых удзельнікаў НАТО ў Косава ці ў Ірак пашлюць.

Расійскія ракеты на Ірак не падаюць, а толькі амерыканскія, а заадно і натаўскія.

**Дзядзька ЗАХАР**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прашу разгануць мае сны. Першы мой сон. Я ў царкве. Мне трэба прыслугоўваць бацюшку. Заходжу я за райскія вароты. Там стаяў столік. На століку ляжаў залаты крыж. Аж ззяў увесь. Спачатку быў там і бацюшка, але пасля бацюшка пайшоў, і я засталася адна. Мне трэба было падрыхтаваць прычасце для спаведнікаў. Раптам я бачу, што ў руцэ ў мяне сок. Мне трэба яго пакаштаваць, ці ён добры. Я спрабавала і падумала, што ён някепскі. Можа быць! На гэтым я парачнулася.

Другі сон. Я знаходжуся ў царкве. Пасярэдзіне царквы стаіць столік. На століку ляжыць крыж, зусім такі самы, як у першым сне: блiскучы, залацісты. Каля століка стаяў бацюшка і служыў абедню, і я стаяла каля яго. Калі бацюшка скончыў служэнне, узяў крыж і стаў даваць яго цалаваць.

У царкве нікога ўжо не было, толькі я адна. Падышла я да крыжа, пацалавала яго і пайшла да выхаду. Там было многа людзей, але я выйшла з царквы і пайшла. На двары ўжо цямнела. Я падумала, што пакуль сцямнее, я дайду да хаты. Пасля дажджу дарога была калная, але я падумала, што зараз выйду на сухую, і так прачнулася.

Я думаю, што гэта ў маім цяжкім жыцці так мне сняцца крыжы. Мусіць, я ад іх не пазбаўлюся да смерці. Ад свайго крыжа і так нікуды не ўцячэш.

Прабач, Астроне, што я напісала з памылкамі. Чытаю кніжкі беларускія, рускія, польскія. Так і мяшаюцца словы і літары.

**ВЕРА з Грыбаўцоў**

Даражэнькая Вера! Прабач, што я табе так доўга не адпісваў, але ж ты і сама амаль свой сон разгадала. Тыя крыжы, якія табе сняцца бясконца, на жаль, гавораць аб смутку і крыўдах. Тое, што ты знаходзілася ў царкве, таксама гаворыць пра сумную справу.

**АСТРОН**

# Адагнаць ад сябе небяспеку

Дзесяць гадоў таму ў Беластоку сышлі з рэек тры цыстэрны з хлорам. На шчасце звадкаваны атрутны газ не разліўся. У адваротным выпадку загінула б усё жывое ў радыусе некалькіх кіламетраў ад месца катастрофы. Беластачане сталі пратэставаць супраць перавозу атрутных рэчываў цераз горад. Небяспечны транспарт цераз Беласток спыніўся.

Хімікаты вазіць не перасталі. Цяпер небяспечны транспарт направілі на Семяноўку. Вядома, што тут шчыльнасць насялення меншая чым у сталіцы ваяводства. Аднак у гэтым старонні распалажаны і Семяноўскае водасховішча, і Белавежскі нацыянальны парк, які пашырае сваю тэрыторыю.

Аднак эколагі і мясцовыя самаўрады не пратэстуюць, што небяспечны груз перапраўляецца цераз Семяноўку, Гайнаўку, Чаромху ў глыб краіны і гэтым самым пагражае мясцоваму насельніцтву і першабытнай прыродзе. Варта, каб самаўрадавыя ўлады Гайнаўкі, Белавежы, Нараўкі, Чаромхі, Дубіч-Царкоўных, Кляшчэляў, Орлі, Нарвы і Міхалова супольна накіравалі ў парламент пратэст супраць перавозу атрутных хімікатаў цераз Семяноўку.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Патрабуецца англіст

У Чаромсе няма пастаяннага настаўніка для навучання англійскай мовы. Заняткі дагэтуль вядзе даязджаючы чалавек. А, вядома, як гэта бывае з даездамі, асабліва ў зімовую пару. Раз цягнік спозніцца, іншым разам занясе снегам дарогу. Дырэктар школы Мікалай Міхалюк разглядаецца за адпаведнай асобай, якая захацела б жыць на месцы. Прапануе ён цалкам нядрэнныя грошы і паўтары стаўкі.

— Мне важны настаўнік на месцы, — сказаў дырэктар. — З кватэрай у Чаромсе не будзе лішніх клопатаў. Напэўна знойдзецца памяшканне як не ў камунальным будынку, дык у прыватным. Школа на наём кватэры адводзіць адпаведныя грошы.

**(ус)**



# Сямятыцкія выдаткі

Сёлетні бюджэт Сямятыч складае 15 мільёнаў 300 тысяч злотых. Палову прыйдзецца выдаць на школьніцтва. Пятую частку паглынуць інвестыцыі, звязаныя з падрыхтоўкамі да чэрвеньскага візіту папы Яна Паўля II у Драгічыне, у асноўным пабудова і рамонты дарог. Радныя пастанавілі таксама разбудоўваць гарадскую каналізацыю ды мадэрнізаваць ачышчальню.

**(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Гармата крытыкі нацэльваецца на Макацёра.*

Мал. Алега КАРПОВІЧА

**Фрашкі пра нашых**

## Ху ёсць ху?

Учапіліся за Сідара панове,
Каб разгадку даў такое справы:
Сідар з Макацёрам па палове
Пішуць разам для свае забавы?

Сідар, хоць вялікі на сем стопаў,
Макацёр ён самы першы на Падляшшы.

А Адам Маньяк — то ж іншы хлопец.
А Вандал — дык ён зусім не з „нашых”!

А за крыжаванку ўзяўся Шурка,
Шчэ адзін (ён кнігаед-разумнік).
Дык вы не чапляйцеся больш Юркаў!
На дванаццатай — ад геніяў аж тлумна!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Кароткі курс параноі

**Залатыя думкі Юрася Бузука**

Лайнанізм — мімалётная пусцяковіна на фасадзе гісторыі, а я — фундамент.

*

Я непераможны — за маімі плячыма стаіць Вялікі Брат.

*

Лайно рвецца да ўлады! Хто за ім стаіць?

*

Як учарашні — я за лайно, як сённяшні — супраць.

*

Адсталасць свінапасаў у тым, што яны паразіты — жывуць за кошт жывёлін.

*

Прычына адмаўлення новага з боку лайна — у размагнічанасці рэпрэсіўных органаў.

*

Высахла жонка, хачу заручыцца з морам.

*

Так, як я, ніхто не ўсміхаецца, не плавае, не віляе хвастом. Я чэмпіён класічнага трохбор'я.

*

Каб зрабіць глупства, трэба мець сілу, рашучасць і палітычную адвагу.

*

Схавайце ў штаны голыя сракі, іду да вас са знакам міру.

**Занатаваў Сідар МАКАЦЁР**

* Юрась Бузук — прадукт пяцідзесяцігадовага эксперымента лайнанізму.

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:***

**Паддоследны**

Яго ляпілі лайнанякі.
Гліну разбавілі лайном,
Мозг закупорылі ў сраку,
Рэклі: — Зямля яму калом.

Паўвеку пернікам нябогу
Згіналі злыдні ў дугу,
Бралі тытуламі ў аблогу.
Аб гэтым сёння ні гу-гу.

Аб гэтым сёння думаць горка.
Гляньце, як выпрастаўся ён!
Куды вядзе наша гаворка?
Дык які дослед — такі плён.

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | *3* | 2 | | 3 *4* | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 *1* | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| *2* | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | *5* |

**Гарызантальна:** 1. металічная пасудзіна з ручкай, 3. горад у Германіі між Нюрнбергам і Рэгенсбургам, 5. Ота, нямецкі левы палітык (1879—1964), 7. возера ў Эфіопіі, 9. правы прыток Дуная, 10. Міхал, польскі кароль у 1669—73 гг., 11. фларэнцкая рака, 12. горад у Эстоніі (25°40'E і 59°20'N), 14. суседка Зямлі з боку Сонца, 16. горад у Італіі (12°40'E і 43°40'N), 17. шкоднік лясоў, які грызе кару.

**Вертыкальна:** 1. пятая ступень гамы, 2. рэлігійная забарона, 3. горад і кантон у Швейцарыі на ўсход ад Люцэрна, 4. левы рукаў ніжняй Волгі, 6. рух хваль па вадзяной паверхні, 8. новая вестка, 9. куст сямейства вярбовых, 11. зорка ў сузор'і Валапаса, 13. абалонка плода, 14. вялікі горад на Дунаі, 15. напр. або Арна, або Раба, або Ахтуба.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 8 нумара**

**Гарызантальна:** ананас, Вадаліў, ранжыр, чурынга, лампас, Арарат, Алабама, альбом, Арынока, статут.

**Вертыкальна:** свечка, Адорна, планка, аўрал, Арнем, Арыка, аварыя, пракос, старац, рулет, робат, тамат.

Рашэнне: **Алесь Баркскі.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

**З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне**

# Запіскі памешанага

Так павінна называцца палоска Сідара Макацёра на апошняй старонцы „Нівы” замест дагэтуляшняй „Кароткі курс параноі”. Толькі псіх адважыцца пісаць на незразумелай „нямецкай” мове свае крытычныя „павучэнні” і аплёўваць сваім цынізмам верных сыноў-беларусаў. Я даўно хацеў аб гэтым напісаць, але і не хацеў з простай прычыны: навошта мне нажываць новага ворага? Але калі ён мяне аплявае у сваіх „запісках” („Ніва” н-р 11), дык хачу яму даць некалькі заўваг і павучэнняў. І калі наш „праведны” Макацёр мае хаця крыху элементарнай культуры, дык павінен задумацца як пісаць, каб чытачы „Нівы” яго рубрыку чыталі, палюбілі і хаця больш-менш зразумелі пра што ён піша сваю балбатню. Мо ён і вучоны, не пярэчу, і мо праз гэта ўжо высыхаюць яму мазгі. Ён павінен ведаць, што „Пан Філюк” (яго загаловак пра мяне) ніколі а ніколі не шукаў і не шукае славы, пашаны і месца побач такіх выдатных людзей як Броўка, Танк і раўні з імі. Гэтыя людзі — класікі беларускай літаратуры і ўжо не жывуць. Але беларуская паэзія многае ім удзячная за іх літаратурны ўклад; і такіх было многа-многа больш. Класікі жывуць і на Беластоцкай зямлі: Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Алесь Баркскі, Ян Чыквін... Я з гэтымі людзьмі ніколі не зраўняюся і не мару пра гэта і не сняцца мне сны аб гэтым. Я просты чалавек, селянін, пісьманосец і самавук, і пішу ў „Ніву” з памылкамі, але пішу; і ці гэта грэх што пішу?

Як я зразумеў, „маайскі веснік” — гэта колішні „Парнасік”, якога Макацёр люта ненавідзіць і, магчыма, ён і яму прыпадобныя яго і зліквідавалі. Абы горшай бяды ў мяне не было, як смерць „Парнасіка”! Калі ён існаваў, дык я пісаў вельмі многа для яго; і іншыя пісалі, нават адукаваныя і культурныя людзі, як напрыклад Цётка Мальвіна. Яна напэўна граматнейшая за нашага Макацёра і то напэўна. „Парнасік” усе чыталі і добрыя водгукі былі пра яго нават з-за мяжы, як ад пражываючых у Англіі беларусаў. А „Кароткі курс параноі” ніхто з простых людзей не чытае, бо там сам д'ябал нічога не зразумее: толькі адны танныя прыказкі і дурнота, а толку ніякага. Сідар цешыцца пішучы: „Маайскі веснік (інача1 «Парнасік») разам з маайцамі кануў у Лету”. Памыляецца, што кануў, бо чытачы „Нівы” гэтага не жадалі, а яны — аўтарытэт кожнай газеты. І сёння „Ніва” дрэнна прадаецца, бо няма „Парнасіка” і „Сардэчных тайнаў”. А, як я ўжо пісаў у сваім допісе „Сучасная паэзія — як каровін хвост” („Ніва” н-р 11), „Парнасік” зліквідавалі па простай прычыне: як гэта можа быць, каб вершы простых людзей, без паэтычнага прызвання „маглі заацьміць паэзію слаўных паэтаў і асвяціць вочы простага чытача...” І зліквідавалі розныя Макацёры, але не чытачы. Мо некаторыя паэты „Парнасіка” і задаволены, што Макацёр аплюваў мяне ў сваіх „запісках”, але ён і іх аплюваў пішучы, як я ўжо згануў: „Маайскі веснік разам з маайцамі кануў у Лету”, — гэта хіба ўсім зразумелае! А тое, што я „б'ю направа і налева і каму ў мызу, каму ў бок” — гэта часта верны крок. Хто на што заслужыў: камуніст, капіталіст, немец, амерыканец, рускі, таму, што гарызонт бюракратаў і прадажнікаў вельмі вузкі; і такія допісы чытаюцца!

І, барані Божа, я ніякі паэт, і хіба аб гэтым не раз сведчыў на старонках „Нівы”, і не хачу каб мае вершы, калі б гэта не было, былі выдадзены ў кніжным выданні. І сёння пішу многа, як кажуць, для сябе і гэта мяне задавальняе ў поўнай меры, і калісьці мае дзеці і ўнукі будуць мець памятку пра дзеда, які толькі па-беларуску гутарыў, пісаў, марыў і думаў і іх гэтаму вучыў. Ці гэта зразумела Сідару, які лічыць сябе разумным, а такі як Панфілюк-Філюк прадстаўляецца ў яго ў мізэрным уяўленні? Дык чаму паважаны мінскі беларускі часопіс „Літаратура і мастацтва” ад 29 студзеня 1999 г. надрукаваў маю „цытату тыдня” на сваіх старонках і знізу падпісана ў дужках: (Мікалай Панфілюк, „Наша натура”, тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва” за 24 студзеня 1999 года, г. Беласток). Я не хвалюся, але ці можа пахваліцца Макацёр, каб яго параноя ўбачыла свет у замежным часопісе?

Сідар Макацёр піша: „Недапешчанаму ўладамі Панчанку, як і пану Філюку, сніліся прэзідыумы: сядзіць ён у іх поруч з Броўкам і Танкам”. Выдатнага беларускага пісьменніка Пімена Панчанку, якога імя прысвоена бібліятэкам на яго радзіме („Збіраем добрае”, „Ніва” н-р 11), Сідар Макацёр адважыўся паставіць у чорным святле і што ён няварты сядзець поруч з Броўкам і Танкам; толькі мо ў сне? Дык даражэнькі Макацёр, напэўна сам Панчанка не хацеў сядзець поруч з такімі літаратарамі як Броўка ці Танк — ярымі камуністамі, хай яны былі і геніяльныя паэты. Ён меў гонар і для верных беларусаў быў адданым сынам радзімы.

Мне здаецца, што „Пан Філюк” — гэта рэпліка на мой допіс „Сучасная паэзія — як каровін хвост” і Макацёр зноў перад друкам дакладна прачытаў мае грызмолы. І хай яму, Макацёру, сняцца прэзідыумы, дзе ён з лялькай Сталіна сядзіць поруч з Броўкам, Танкам, Мясніковым, Цанавам і Лукашэнкам. Ад сябе дадам: вершы Галавасцюка і Вандала Арлянскага нічуць не лепшыя ад маайскіх, парнасікавых, а нават горшыя. Калісьці на апошняй старонцы былі „Гумар і сатыра” — было што чытаць, а сёння друкуюцца дурніцы нейкіх „нямецкіх” дзівакоў і ніхто іх не чытае. І марнуецца папера „Нівы”.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Незаступны

Здаецца Незаступнаму, што свет трэсне, калі ён раптам хоць на хвіліну зваліцца ў пасцель. А працавіты ён, шчыры аж да болю, недаеў-недаспаў, бо ўсё ў справах. Дзіўным чынам паспеў абзавесціся сям'ёй, і дзеткі яму ўдаліся (у той напружаны час думаў пра раскладзеную на пісьмовым стале ў мастацкім балагане работу).

Хоць ён варты пашаны і ўвагі, усё здаецца яму, што, без іншых Незаступных, не зможа сам свет паставіць на ногі. Здаецца, што за іхнімі плячыма спакойна напрацуецца ў волю, да паўсмерці, дзеля добрае справы. З натуры даверлівы, не бачыць, што не толькі тыя, менш таленавітыя і працавітыя ад яго ўзлезлі яму на галаву і падскочылі вышэй, а нават тыя, каму паверыў больш чым роднаму бацьку і свайму здароваму розуму, глядзяць на яго як на цягавітага ды ненатурыстага асла, які прыдасца ў гаспадарцы.

Сапраўдных Незаступных найчасцей не заўважаюць. Хіба што яны пра гэта, сваю незаступнасць, самі з асалодай распавядаюць па ўсім белым свеце, а і маюць прыдворных хранікёраў, што глаголяць пра іхныя дасягненні, ды пукатыя кішэні.

А нашага Незаступнага наўрад ці ўспомняць добрым словам ягоныя палярай-паплечнікі, калі ён, як той дахадзячы каняга зваліцца храпай у баразну на родным палетку.

**Міра ЛУКША**